● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

3 кастрычніка 1998 г.
субота
№№ 197-198
(23548-23549)

# ЗВЯЗДА



# Удачы табе, школьны настаўнік!



**Настаўніцкі хлеб, як вядома, ніколі не даваўся лёгка. Толькі гэтая акалічнасць не палохала апантаных, абраўшых сабе адну з самых цікавых і ганаровых прафесій. У руках простага школьнага настаўніка не толькі дзіцячыя лёсы — будучыня краіны. Хіба не адказная праца? Зразумела, у першую чаргу Карыну Усцінскую (на здымку) у прафесію паклікалі любоў і жаданне працаваць з дзецьмі. Таму працуецца ёй і творча, і цікава. Маладая настаўніца адчувае асабістую адказнасць за лёс кожнага вучня, яе задача — дапамагчы развіцца кожнаму маленькаму таленту. Таму і спяшаецца яна штораніцы ў свой пачатковы клас сярэдняй школы № 30 — адной з лепшых школ сталіцы.**

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## У САДАХ, ШКОЛАХ І БАЛЬНІЦАХ БУДЗЕ ЦЁПЛА

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка даў даручэнне ўраду забяспечыць падключэнне ацяплення ў дзіцячых садах, школах і бальніцах. Як растлумачылі ў прэс-службе кіраўніка дзяржавы, гэта мера прымаецца ў сувязі з рэзкім пахаладаннем.**

БЕЛТА.

## Ацяпляльны сезон пачаўся...

Згодна з распараджэннем Мінгарвыканкама, 2 кастрычніка ў Мінску пачаўся ацяпляльны сезон. У пятніцу цяпло пачалі падаваць у бальніцы, стацыянарныя бальнічныя ўстановы, дамы дзіцяці, дамы састарэлых і ў школы-інтэрнаты.

Як растлумачылі «Звяздзе» ў Мінскім гарадскім цэнтры гігіены і эпідэміялогіі, у дзіцячых дашкольных установах нармальны тэмпературны рэжым у спальных пакоях павінны быць не ніжэй 18 градусаў, у групавых пакоях — 19-20, у яслях— 21 градус. Але ў апошнія дні месцамі тэмпература паветра тут была ўсяго 14—16 градусаў.

Што датычыцца абагравання сталічнага жыллёвага фонду, то гэта пытанне будзе разглядацца толькі на наступным тыдні. Але пасля 8 кастрычніка сіноптыкі абяцаюць нязначнае пацяпленне.

Надзея НІКАЛАЕВА.

## Ці былі ў загінуўшым самалёце беларусы?

**Учора расійскія сродкі масавай інфармацыі паведамілі аб тым, што быццам бы паблізу Шры-Ланкі былі знойдзены рэшткі самалёта, які, па адной з версій, быў збіты. Нібыта падчас трагедыі загінула больш за 50 чалавек. У тэлесюжэце паведамлялася, быццам чацвёра з іх мелі дачыненне да Беларусі. Ні аб прыналежнасці паветранага судна, ні аб тым, быў гэта грузавы ці пасажырскі самалёт, не паведамлялася.**

На момант выхаду нумара карэспандэнту «Звязды» ўдалося ўдакладніць наступнае. У інфармацыйным аддзеле Міністэрства замежных спраў пакуль ніякіх афіцыйных паведамленняў на гэты конт не атрымлівалі. Усе звесткі, якімі валодаюць у міністэрстве, здабыты па неафіцыйных каналах, таму яны пакуль не зусім дакладныя. Факт катастрофы самалёта быццам бы пацвярджаецца, па ўскосных прыметах — ён нібыта наш, беларускі АН-24. Належыць гомельскаму авіяатраду. Вядома, калі пасажырскі самалёт наш, экіпаж на ім таксама быў з Беларусі, паведамілі ў міністэрстве.

У Дзяржкамітэце па авіяцыі рэдакцыі гэтую інфармацыю ў рэшце рэшт пацвердзілі. Так, пасажырскі самалёт сапраўды належыць гомельскаму авіяатраду. Па дагавору арэнды ён працаваў там на перавозцы людзей. 28 верасня ён узляцеў з аднаго з аэрадромаў і сувязь з ім знікла. У экіпаж уваходзілі чатыры беларусы-гамяльчаніны і дзве бортправадніцы з ліку мясцовых. Факт катастрофы ў Дзяржкамітэце не пацвердзілі. Самалёт тут лічаць прапаўшым без вестак. «Магчыма, ён зрабіў недзе вымушаную пасадку». Пошукавыя работы вядуцца мясцовым насельніцтвам. «Калі будзе патрэба, туды вылеціць і наш прадстаўнік».

Сяргей РАСОЛЬКА.

## ГЕНЕРАЛЬНЫ ПРАКУРОР ПРАІНФАРМАВАЎ ПРЭЗІДЭНТА АБ РАССЛЕДАВАННІ «ГУЧНЫХ» СПРАЎ

Аб ходзе расследавання найбольш значных спраў, што знаходзяцца ў веданні следчых органаў пракуратуры, МУС і КДБ, 2 кастрычніка праінфармаваў кіраўніка дзяржавы Аляксандра Лукашэнку Генеральны пракурор рэспублікі Алег Бажэлка.

Як паведамілі БЕЛТА ў прэсслужбе прэзідэнта, Аляксандру Лукашэнку было далажана аб прынятых мерах па праектах невяртання камерцыйнымі структурамі крэдытаў, выдзеленых АТ «Беларусбанк». Кіраўнік дзяржавы даў канкрэтныя даручэнні па пакрыццю ўрону і прыцягненню вінаватых да адказнасці.

Генеральны пракурор таксама далажыў прэзідэнту аб стане законнасці ў рабоце мытных органаў. Кіраўнік дзяржавы даручыў яму ўзмацніць нагляд у гэтым напрамку і рэгулярна інфармаваць па гэтаму пытанню.

БЕЛТА.

## ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ШЫПУКА П. У.

### НА АДКРЫЦЦІ ПЯТАЙ СЕСІІ САВЕТА РЭСПУБЛІКІ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

*2 кастрычніка 1998 года*

Паважаныя члены Савета Рэспублікі, запрошаныя, журналісты!

У адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь сёння мы адкрываем пятую сесію Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Нагадаю, што апошняя наша сустрэча ў гэтай зале адбылася тры месяцы таму. Аднак міжсесійны перыяд, нягледзячы на летнія водпускі, быў насычаны аб'ёмнай і творчай работай. Перш за ўсё гэта датычыла запланаваных на трэці квартал мерапрыемстваў, звязаных з удасканаленнем заканатворчай дзейнасці, умацаваннем узаемадзеяння з выканаўчай і судовай уладамі, развіццём міжпарламенцкіх і міжнародных сувязяў.

Асноўная дзейнасць пастаянных камісій Савета Рэспублікі і структурных падраздзяленняў яго сакратарыята была сканцэнтравана на падрыхтоўцы заўваг і прапаноў да праектаў наступных кодэксаў: Выбарчага, Працоўнага, Жыллёвага, Паветранага, Гандлёвага мараплавання, Крымінальнага, Крымінальна-працэсуальнага, Крымінальна-выканаўчага, Грамадзянскага працэсуальнага, Гаспадарчага працэсуальнага, Кодэкса аб зямлі.

Вялася работа і над праектамі законаў Рэспублікі Беларусь «Аб гаспадарчых судах у Рэспубліцы Беларусь», «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь», «Аб забеспячэнні насельніцтва пітной вадой», а таксама над Законам Рэспублікі Беларусь «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь».

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ МАЛАФЕЕВА А. А.

### НА АДКРЫЦЦІ ПЯТАЙ СЕСІІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

Сёння, 2 кастрычніка 1998 года, у адпаведнасці з Канстытуцыяй нашай суверэннай дзяржавы пачне сваю работу чарговая пятая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

Яна па-свойму асаблівая. Гэта своеасаблівы экватар нашай дэпутацкай дзейнасці. Мы прыйшлі да яго, набыўшы пэўны заканатворчы вопыт. Нашай галоўнай мэтай было і застаецца стварэнне нарматыўна-прававой базы, прызначанай забяспечыць палітычную стабільнасць у грамадстве, курс канстытуцыйных рэформаў, сацыяльна-эканамічных і дэмакратычных пераўтварэнняў для ўмацавання пазіцый краіны, паляпшэння жыцця яе народа.

З моманту стварэння вышэйшага заканадаўчага органа праведзена, трэба прама сказаць, немалая работа. За гэты час намі прыняты 223 законапраекты ў першым чытанні, 208 — у другім. Прэзідэнтам падпісаны на сённяшні дзень 192 законы, і яны ўжо ўступілі ў дзеянне.

На сустрэчы з членамі Савета Палаты прадстаўнікоў і Прэзідыума Савета Рэспублікі, праведзенай напярэдадні адкрыцця гэтай сесіі, 29 верасня, Прэзідэнт Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка высока ацаніў значны ўклад нашага парламента ў стварэнне нацыянальнага заканадаўства. Кіраўнік дзяржавы адзначыў, што развіццё міжпарламенцкіх сувязяў у рамках СНД і Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, кантакты на ўзроўні міжнароднага парламентарызму садзейнічаюць павышэнню аўтарытэту нашай краіны ў сусветным супольніцтве. Прэзідэнт таксама падкрэсліў, што парламент пачаў працаваць як сапраўдны заканадаўчы орган, які ў сваёй дзейнасці кіруецца не палітычнымі кан'юнктурамі і эмоцыямі, а мэтанакіравана прытрымліваецца інтарэсаў народа. Такая ацэнка — прыемны фактар, які ў той жа час да многага абавязвае.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Я І МАЯ СЯМ'Я

**Ляля ХАНОК:**

## «Нават пасля таго, як Эдзік па дарозе на БАМ уступіў нагой у кіпячы чайнік, яму не далі прэмію Ленінскага камсамола»

***Імя вядомага беларускага кампазітара Эдуарда Ханка, думаецца, не мае патрэбы ў прадстаўленні. Чалавек вядомы як у кампазітарскім жанры, так і ў жанры скандальнай хронікі. Зрэшты, аб скандалах няхай пішуць іншыя, а ў нас у гасцях сёння жонка Эдуарда Сямёнавіча — Ляля Іванаўна Ханок, якая не адмовілася пагутарыць з карэспандэнтам «Звязды», што называецца, «за жыццё».***

— Шчыра кажучы, вашага брата-журналіста я не вельмі люблю за тыя плёткі, што вы распускаеце пра Эдуарда Сямёнавіча, але з вамі, як мне падаецца, можна пагутарыць пра асабістае, — робіць мне камплімент Ляля Іванаўна. — Аура ў вас нейкая добрая...

**— Ляля Іванаўна, давайце, калі не супраць, пачнём з таго, як вы пазнаёміліся з Эдуардам Сямёнавічам. Наогул, памятаеце той дзень?**

— Цудоўна! 28 жніўня 1960 года здарылася так, што мы з маім будучым мужам трапілі ў Брэсце на хрэсьбіны да знаёмых. Эдзіка запрасілі ў якасці акардэаніста ў саставе невялічкага аркестрыка, а мяне пацягнула за сабой маці. Кажа: «Чым ты, Ляля, са сваёй сяброўкай будзеце на танцпляцоўцы выдылінгваць, пойдзем лепш са мной на хрэсьбіны». Прыходзім, а Эдзік ужо на ўсю моц публіку весяліць. З першага погляду ён мне не вельмі спадабаўся. Ды яшчэ сяброўка ў бок таўчэ: «Глядзі, Лялька, як нахабна глядзіць на цябе вунь той акардэаніст». А я тады толькі паступіла ў музычнае вучылішча, і думаю сама сабе: «Нічога сабе — пуп зямлі знайшоўся. Гонару — вышэй галавы, а сам маленькі, плюгавенькі. Бачылі мы такіх!» Праўда, калі Эдзік зайграў на фартэпіяна класіку, нешта ў мяне на душы заскрэбла. Пасля пазнаёміліся. А праз два дні ён з'ехаў са сваім аркестрыкам у Мінск, дамовіўшыся са мной перапісвацца. Так і было, пакуль наш акардэаніст ізноў не прыехаў да нас на нейкія святы. Сустрэліся з ім, тое-сёе, размаўляем (а ён быў мастак на чырвонае слоўца) і тут гляджу — пудрыць, пудрыць мне мазгі і жвавенька так — хоп! — да мяне і цалавацца. Для мяне, шаснаццацігадовай, гэта была тады такая абраза, што я завярнулася і пабегла. Кукіш табе, думаю, а не Лялю цалаваць. Рассварыліся мы, а праз нейкі час ад яго ліст прыходзіць. Так і так, маўляў, прабачце, дарагая Ляля Іванаўна, мая памылка была ў тым, што вы яшчэ самая звычайная малалетка, і вам пакуль не зразумець светлага савецкага пачуцця. Бай-бай!

(Заканчэнне на 7-й стар.)

СКАНДАЛ

## Камандзір дысбата сам трапіў за краты

Беларускай ваеннай пракуратурай узбуджана крымінальная справа ў адносінах да камандзіра дысцыплінарнага батальёна. Згодна з матэрыяламі, афіцэр з карыслівых намераў, злоўжываючы службовым становішчам, накіроўваў на будаўніцтва свайго дома ў Мінскім раёне асабісты састаў часці з ліку асуджаных (6 чалавек), якія адбывалі пакаранне, і ваеннаслужачых пастаяннага саставу (2 чалавекі). Іх сіламі практычна пабудаваны асабняк для камандзіра дысбата.

**Аляксей ТАРАНАЎ, начальнік прэс-цэнтра Пракуратуры Беларусі.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 2 КАСТРЫЧНІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 73900 | 74000 | 44520 | 44580 | 4000 | 4500 | 222-0750 |
| Пріорбанк | 73500 | 73000 | 43800 | 44600 | 3000 | 4500 | 245-5721 |
| Белпрамбудбанк | 73000 | 74000 | 43500 | 44600 | 4000 | 4500 | 233-2110 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 53500 | | 32592.14 | | 3300 | | Курс на 03.10.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15.9706 | | 9.7015 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галоўнага ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваўца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галоўных упраўленняў неганддёвых аперацый адлаведных банкаў.*

Агенцтва ГРАЎЦОВА.

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

2 кастрычніка 1998 года ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь у Мінску адкрылася пятая сесія Савета Рэспублікі і пятая сесія Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі.

Пры адкрыцці сесій выступілі Павел Шыпук і Анатоль Малафееў.



## Выступленне Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Шыпука П. У. на адкрыцці пятай сесіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

У міжсесійны перыяд адбыліся таксама пасяджэнні дзвюх пагаджальных камісій Савета Рэспублікі і Палаты прадстаўнікоў. Першая абмеркавала адхілены раней законапраект «Аб цэнаўтварэнні». Бакі прыйшлі да згоды і ўлічылі заўвагі, унесеныя Саветам Рэспублікі, а таксама асобныя прапановы Нацыянальнага цэнтра законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

Другая пагаджальная камісія абмеркавала шэраг артыкулаў законапраекта «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных парушэннях». Асноўная прычына адхілення гэтага дакумента Саветам Рэспублікі — памеры штрафаў за адміністрацыйныя парушэнні. Дасягнута пагадненне аб неабходнасці змяншэння штрафных санкцый. Асаблівая ўвага Саветам Рэспублікі ўдзялялася ўдасканаленню заканатворчага працэсу, наладжванню больш цеснага ўзаемадзеяння з выканаўчай і судовай уладамі. У прыватнасці, намі падрыхтаваны і ўнесены ў Нацыянальны цэнтр законапраектнай дзейнасці пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь прапановы ў план распрацоўкі законапраектаў у 1999 годзе, заўвагі па праекту дзяржаўнай праграмы «Канстытуцыйнае заканадаўства». Разгледжаны таксама праекты Указаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку афіцыйнага апублікавання і ўступлення ў сілу прававых актаў Рэспублікі Беларусь» і «Аб зацвярджэнні Парадку заключэння, выканання і спынення дзеяння міжнародных дагавораў Рэспублікі Беларусь».

У Мінгарвыканкаме па ініцыятыве парламентарыяў, выбраных ад горада Мінска, прайшоў «круглы стол», на якім абмеркаваны пытанні заканатворчай дзейнасці і супрацоўніцтва са сталічнай «вертыкаллю». Члены Прэзідыума Савета Рэспублікі за перыяд з чэрвеня па кастрычнік гэтага года ўдзельнічалі амаль у дваццаці пасяджэннях абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў. Такая практыка дапамагае нам глыбей вывучаць праблемы мясцовай улады, вызначаць прыярытэтныя напрамкі ў заканадаўчай дзейнасці.

На цяперашнім этапе ўзрос аб'ём работы, звязаны з разглядам спраў у Канстытуцыйным судзе. У краіне цяпер, як вы ведаеце, склалася такая сітуацыя, калі новыя заканадаўчыя акты па шэрагу галін права яшчэ не выпрацавалі, а старыя не ў поўнай меры адпавядаюць канстытуцыйным нормам. У сувязі з гэтым Канстытуцыйны суд выносіць на парадак дня сваіх пасяджэнняў пытанні аб адпаведнасці Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь асобных артыкулаў Крымінальнага, Крымінальна-працэсуальнага кодэксаў, іншых заканадаўчых актаў. У перыяд паміж сесіямі Савет Рэспублікі як бок па справе прадставіў сваё заключэнне па сямі ўзбуджаных Канстытуцыйным судом справах аб адпаведнасці Асноўнаму закону шэрагу нарматыўных актаў.

Развівалася і паглыблялася далейшае супрацоўніцтва Савета Рэспублікі з парламентамі замежных краін, якое насіла дзелавы і канструктыўны характар, садзейнічала ўмацаванню аўтарытэту нашай краіны на міжнароднай арэне. У міжсесійны перыяд мы прынялі афіцыйныя дэлегацыі парламентаў Кувейта, Удмурціі, Латвіі і Крыма, з якімі былі абмеркаваны пытанні міжпарламенцкага супрацоўніцтва і развіцця эканамічных сувязяў. У сваю чаргу члены Савета Рэспублікі ўдзельнічалі ў семінары парламентарыяў і вучоных у Оксфардзе; у сёмай сесіі Парламенцкай Асамблеі арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе; у пятай міжнароднай канферэнцыі жанчын-парламентарыяў у Кейптаўне; у юбілейнай — 100-й канферэнцыі Міжпарламенцкага Саюза ў Маскве. У выніку такіх кантактаў негатыўныя адносіны да беларускіх парламентарыяў, якія былі такімі відавочнымі год-два таму, мяняюцца на паважлівыя і даверлівыя. На маскоўскай канферэнцыі, у прыватнасці, была падтрымана ініцыятыва нашай дэлегацыі па стварэнню ў рамках МПС геапалітычнай парламенцкай групы «Еўраазія», галоўная мэта якой — узгадненне інтарэсаў заканадаўцаў краін СНД.

Члены Савета Рэспублікі прымалі таксама ўдзел у рабоце розных органаў Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, Міжпарламенцкага Камітэта Беларусі, Казахстана, Кыргызстана і Расійскай Федэрацыі, Міжпарламенцкай Асамблеі СНД. У Мінску праводзіліся пасяджэнні пастаянных камісій МПА.

Паважаныя члены Савета Рэспублікі!

Тры дні таму, як вы ведаеце, адбылася сустрэча членаў Прэзідыума Савета Рэспублікі і Савета Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. На ёй былі абмеркаваны пытанні павышэння эфектыўнасці і рэзультатыўнасці ўзаемадзеяння ўсіх галін улады, вызначана стратэгія дзейнасці заканадаўчага органа на бліжэйшую перспектыву.

На думку прэзідэнта, парламентарыям неабходна ў першую чаргу сканцэнтраваць увагу на прыняцці асабліва значных, актуальных для рэспублікі законаў, у тым ліку і кодэксаў. Аляксандр Рыгоравіч выказаў пажаданне, каб парламент Беларусі ішоў наперадзе іншых краін СНД у галіне распрацоўкі новых і ўдасканалення дзеючых законаў. Ён заклікаў кіраўнікоў розных міністэрстваў і ведамстваў аказваць усямерную падтрымку парламентарыям з тым, каб спецыялісты ў розных галінах кансультавалі парламентарыяў па праблемах, якія мяркуецца выращыць шляхам прыняцця адпаведных законаў.

Прэзідэнт напомніў, што ў 2000 годзе адбудуцца парламенцкія выбары, і даў зразумець, што хацеў бы бачыць абсалютную большасць членаў цяперашняга дэпутацкага корпуса рэспублікі ў саставе новага парламента. Менавіта таму, як адзначыў Аляксандр Рыгоравіч, цяперашнім парламентарыям важна мець добрую рэпутацыю ў сваіх рэгіёнах і акругах.

У заключэнне — аб задачах, якія стаяць перад Саветам Рэспублікі на цяперашняй сесіі.

Як вы ведаеце, Савет Рэспублікі фарміруе свой парадак на аснове тых законапраектаў, якія будуць разгледжаны нашымі калегамі ў Палаце прадстаўнікоў у другім чытанні. Паводле папярэдніх даных, такіх дакументаў будзе каля сарака. Акрамя таго, трэба будзе абмеркаваць пяць дэкрэтаў прэзідэнта, ратыфікаваць дзевяць міжнародных дагавораў і пагадненняў.

На цяперашняй сесіі асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць заканадаўчаму забеспячэнню гарантый захавання канстытуцыйных праваў і свабод, сацыяльнай абароне грамадзян Беларусі. Адпаведныя законапраекты ўжо ўнесены ў Палату прадстаўнікоў.

Да найбольш актуальных дакументаў, якія патрабуюць больш хуткага прыняцця, трэба аднесці праекты законаў аб пражытачным мінімуме; аб дэклараванні фізічнымі асобамі даходаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў; аб свабодных эканамічных зонах; аб дзяржаўным рэгуляванні знешнегандлёвай дзейнасці; аб гаспадарчых судах; аб навукова-тэхнічнай інфармацыі; аб забеспячэнні насельніцтва пітной вадой; аб чыгуначным транспарце; аб іміграцыі.

Другая асаблівасць маючай адбыцца сесіі заключаецца ў тым, што мы павінны сканцэнтравацца на паглыбленні працэсу кадыфікацыі заканадаўства. У выпадку рэзультатыўных другіх чытанняў у Палаце прадстаўнікоў на наш суд будуць вынесены праекты Крымінальнага, Крымінальна-выканаўчага, Крымінальна-працэсуальнага, Грамадзянскага, Гаспадарчага працэсуальнага, Жыллёвага кодэксаў, зводы законаў аб зямлі і гандлёвым мараплаванні. З іх найбольш важнае значэнне мае Грамадзянскі кодэкс, ад прыняцця якога ў многім залежыць далейшае развіццё заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

У сувязі з тым, што ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь вясной 1999 года ў краіне будуць праводзіцца выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў, больш поўнага прававога рэгулявання патрабуюць мясцовыя кіраванне і самакіраванне. Таму ў бліжэйшы час нам трэба будзе разгледзець праект закона аб выбарах у мясцовыя Саветы дэпутатаў.

Зусім нядаўна распараджэннем кіраўніка дзяржавы створана рабочая група па падрыхтоўцы праекта закона аб мясцовым кіраванні і самакіраванні, якая ўключае і прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Паралельна ідзе актыўная работа па распрацоўцы канцэпцыі рэфарміравання мясцовага самакіравання. Літаральна напярэдадні гэтай сесіі з Адміністрацыі Прэзідэнта мы атрымалі падрыхтаваны Інстытутам эканомікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі навуковы даклад аб рэфарміраванні мясцовага кіравання і самакіравання. Думаю, будзе правільна, калі з гэтым дакументам мы пазнаёмім кожнага з вас з такім разлікам, каб атрымаць ад прадстаўнікоў рэгіёнаў канкрэтныя прапановы па гэтаму пытанню.

Паважаныя калегі!

Наперадзе ў нас тры месяцы адказнай працы. Выніковасць яе ў многім будзе залежаць ад ініцыятыўнасці і творчага падыходу кожнага члена Савета Рэспублікі. Заклікаю вас сканцэнтраваць свае намаганні і ўвагу на вырашэнні задач, якія стаяць перад нашай палатай на маючай адбыцца сесіі.

Дзякую за ўвагу.

## ВЫСТУПЛЕННЕ СТАРШЫНІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АНАТОЛЯ МАЛАФЕЕВА НА АДКРЫЦЦІ ПЯТАЙ СЕСІІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Зыходзячы з пастаўленых прэзідэнтам задач у галіне эканомікі, унутранай і знешняй палітыкі, сацыяльнай і іншых сфер, мы павінны працаваць у яшчэ больш цесным кантакце з іншымі галінамі ўлады, з дзяржаўнымі органамі і грамадскімі арганізацыямі. І ў першую чаргу, з калегамі — членамі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, а таксама з Адміністрацыяй Прэзідэнта і Нацыянальным цэнтрам законапраектнай дзейнасці.

Наяўны ў нашым актыве вопыт такога супрацоўніцтва на розных стадыях заканатворчага працэсу не раз даказваў сваю рэзультатыўнасць, што праяўлялася ў якасці законапраектаў, якія прымае Палата прадстаўнікоў. У нашай рабоце стала менш заканадаўчага «браку». Такая тэндэнцыя, думаю, захаваецца і на гэтай няпростай напружанай пятай сесіі. Аб тым, што яна такой будзе, сведчыць праект парадку дня, які 15 верасня адобраны Саветам Палаты прадстаўнікоў. Усе ўключаныя ў яго 83 пытанні прайшлі папярэднюю старанную прапрацоўку ў пастаянных камісіях.

Варта адзначыць глабальнасць і значнасць шэрагу законапраектаў, што выносяцца на сесію, для нацыянальнага заканадаўства на базе яго кадыфікацыі. Нам трэба будзе разгледзець у другім чытанні дзесяць кодэксаў, якія маюць вялікае значэнне для нашай рэспублікі. Да гэтага трэба дадаць і адзінаццаты — Грамадзянскі кодэкс, які будзе ўнесены ў бліжэйшы час. Па сутнасці, гэта эканамічная канстытуцыя. Выключна важнымі для ўнутрыпалітычнага жыцця краіны з'яўляюцца праекты законаў «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», які знаходзіцца ў рабоце, «Аб статусе дэпутата Палаты прадстаўнікоў, члена Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь» і многія іншыя.

Знойдзе на гэтай сесіі сваё прадаўжэнне і такая форма работы заканадаўцаў, якая станоўча зарэкамендавала сябе, як парламенцкія слуханні.

Прапануецца прысвяціць іх пытанням развіцця лясной гаспадаркі і лесакарыстання. На іх будуць разгледжаны і іншыя важнейшыя пытанні жыцця нашай дзяржавы.

Нам, паважаныя дэпутаты, трэба будзе прыняць заканадаўчыя рашэнні па прававому рэгуляванню грамадскіх адносінаў ва ўсіх сферах жыцця дзяржавы.

Азнаёміўшыся з унесеным на ваша зацвярджэнне праектам парадку дня пятай сесіі, вы несумненна пераканаліся, што перад намі вельмі адказная і напружаная праграма. У перапынку ў перыяд паміж сесіямі дэпутаты прадукцыйна працавалі ў пастаянных камісіях Палаты прадстаўнікоў, у міністэрствах, ведамствах і розных дзяржаўных органах, дзе адпрацоўваліся тыя ці іншыя палажэнні законапраектаў, а таксама ў сваіх выбарчых акругах.

За мінулы пасля чацвёртай сесіі час актыўна развіваліся нашы міжпарламенцкія кантакты, вывучаўся замежны вопыт заканатворчасці. Паспяховым быў удзел дэлегацыі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у юбілейнай 100-й канферэнцыі Міжпарламенцкага саюза, у састаў якога ўваходзяць парламенты 137 краін, што праходзіла ў Маскве. Усё гэта пацвярджае нашу высокую гатоўнасць без раскачкі, з высокай ступенню актыўнасці ўключыцца ў работу сесіі.

Я шчыра вітаю прысутных у гэтай зале, жадаю паспяховай, плённай дзейнасці па выкананню адказных дэпутацкіх паўнамоцтваў у заканадаўчым органе дзяржавы.

Паважаныя дэпутаты! У адпаведнасці з артыкулам 95 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь пятую сесію Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь аб'яўляю адкрытай.

*Парламенцкі дзённік*

## СЕНАТАРЫ АДКРЫЛІ СЕСІЮ І ПАЙШЛІ НА ВУЧОБУ

**2 кастрычніка члены Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу, як і іх калегі з Палаты прадстаўнікоў, сабраліся на пятую сесію. Але ў адрозненне ад дэпутатаў, сенатары папрацавалі ўчора толькі каля гадзіны. Ды і палову гэтага часу заняло выступленне Старшыні Савета Рэспублікі Паўла Шыпука.**

Спікер павіншаваў парламентарыяў з пачаткам сесіі і коратка праінфармаваў іх пра тое, чым займалася кіраўніцтва Савета Рэспублікі ў міжсесійны перыяд гэтым летам. Ён расказаў пра наведванне парламента замежнымі дэлегацыямі, пра візіты нашых заканадаўцаў за мяжу, пра падрыхтоўку асобных законапраектаў. П. Шыпук паведаміў пра сустрэчу кіраўніцтва абедзвюх палат Нацыянальнага сходу з прэзідэнтам напярэдадні адкрыцця сесіі, дзе быў абмеркаваны план дзейнасці парламента на бліжэйшую перспектыву. Аляксандр Лукашэнка, паводле яго слоў, таксама нагадаў, што ў 2000 годзе адбудуцца выбары ў Нацыянальны сход, і выказаў пажаданне бачыць у новым саставе большасць сённяшніх парламентарыяў.

Старшыня Савета Рэспублікі расказаў, што на пятай сесіі парламенту належыць адобрыць каля сарака праектаў законаў і кодэксаў, пяць прэзідэнцкіх дэкрэтаў, дзевяць міжнародных дагавораў і пагадненняў. Несумненна, у ходзе сесіі парадак дня значна пашырыцца.

Менавіта па той прычыне, што Палата прадстаўнікоў пачала працаваць адначасова з Саветам Рэспублікі, у апошні пакуль не накіравана ніводнага дакумента для адабрэння. Такім чынам, учора сенатары толькі абралі падліковую камісію і сакратарыят сесіі, далі згоду прэзідэнту на прызначэнне членам праўлення Нацыянальнага банка В. Сянько (адпаведны ўказ адносна яго кандыдатуры быў падпісаны яшчэ ў жніўні), заслухалі справаздачу Тамары Дудко аб удзеле дэлегацыі Нацыянальнага сходу ў 100-й Асамблеі Міжпарламенцкага саюза ў Маскве ў пачатку верасня і разышліся.

Праўда, каб час дарэмна не губляўся, для членаў Савета Рэспублікі ў пятніцу быў арганізаваны семінар на тэму «Банкаўская сістэма і крэдытна-грашовая палітыка ў Рэспубліцы Беларусь: стан і перспектывы развіцця».

Наступнае пленарнае пасяджэнне Савета Рэспублікі запланавана на 22 кастрычніка. На дзень пазней адбудзецца сумеснае пасяджэнне палат парламента, якое пройдзе ў форме пытанняў да членаў Савета Міністраў і адказаў на іх з боку прадстаўнікоў урада. У другой палове дня 23 кастрычніка сенатары плануюць зноў сабрацца на асобнае пасяджэнне.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

## ДЭПУТАТЫ ПРЫНЯЛІ ПАРАДАК ДНЯ АСЕННЯЙ СЕСІІ

**2 кастрычніка пачалася пятая сесія Нацыянальнага сходу. У Палаце прадстаўнікоў у гэты дзень галоўнай падзеяй стала прыняцце яе парадку дня. Апрача 83 пытанняў, прапанаваных да разгляду Саветам палаты, яшчэ чатыры пункты былі ўключаны па ініцыятыве асобных парламентарыяў.**

Сесія павінна заняцца далейшым упарадкаваннем заканадаўства: у парадак дня ўключаны дзесяць праектаў кодэксаў: Крымінальнага, працэсуальных, жыллёвага, зямельнага, паветранага, гандлёвага мараплавання і інш. У першым чытанні дэпутатамі будзе разгледжана нямала важных законапраектаў: аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях, аб зброі, аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў, аб дзяржаўнай граніцы... У другім чытанні павінны быць прыняты законы аб дэклараванні фізічнымі асобамі даходаў, маёмасці і крыніц грашовых сродкаў і законапраект аб адказнасці за непрадастаўленне такіх дэкларацый, праекты законаў па пытаннях барацьбы са злачыннасцю, аб цэнаўтварэнні, аб свабодных эканамічных зонах і інш.

З усіх законапраектаў, уключаных у парадак дня, 33 было ўнесена прэзідэнтам, 46 — Саветам Міністраў і два — дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў.

Падчас пятай сесіі будуць праведзены парламенцкія слуханні па пытаннях развіцця лясной гаспадаркі і лесакарыстання. Чакаецца ўключэнне ў парадак дня і слуханняў па сітуацыі ў сістэме аховы здароўя краіны. А вось прапанова дэпутата Віктара Кучынскага аб уключэнні ў парадак дня парламенцкіх слуханняў на тэму празмернага распаўсюджвання алкагалізму, наркаманіі і ўсталяванні цвярозага ладу жыцця была падтрымана толькі 50 дэпутатамі і пакуль што не ўвайшла ў парадак дня.

Між тым, гэтая тэма даволі востра абмяркоўвалася на ўчарашнім пасяджэнні Палаты прадстаўнікоў.

— Недаацэньваць гэтай праблемы нельга, на сёння стан спраў у грамадстве такі, што гэтыя сацыяльна небяспечныя з'явы набралі тую крытычную масу, якая можа не толькі падарваць здароўе нацыі, але і канчаткова разбурыць краіну. У маёй выбарчай акрузе, Кобрыне, напрыклад, каля 800 хранічных алкаголікаў, квітнее наркаманія, — пераконваў калег В. Кучынскі.

Яго падтрымаў дэпутат Пётр Жушма:

— Гэтую праблему трэба разглядаць разам з усім урадам. Людзі так масава п'юць ад безвыходнасці, ад нізкага ўзроўню жыцця.

На пасяджэнні нават выказвалася думка аб тым, што трэба павялічваць цану на гарэлку, бо яна ў нас каштуе танней, чым сок і кока-кола.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## НАДЗВЫЧАЙНЫ ЗІМОВЫ ЗАКЛІК

**1 кастрычніка надвор'е сапсавалася, дзень выдаўся няўдалы — упершыню з неба пасыпаўся мокры снег. Людзі хуталіся ў цёплыя паліто і з трывогай думалі, што зіма ў гэтым годзе будзе суровай. Як перазімаваць?**

Але побач з намі жывуць і малазабяспечаныя людзі: шматдзетныя сем'і, бежанцы, сіроты, для якіх гэтае пытанне з'яўляецца яшчэ больш актуальным.

Міжнародная Федэрацыя таварыстваў Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца разам з Беларускім Чырвоным крыжам выступілі з беспрэцэдэнтным заклікам аб зборы гуманітарнай дапамогі малазабяспечаным людзям, цяжкае становішча якіх падвоілася сацыяльным і эканамічным крызісам у Расіі. Гэтая праграма атрымала назву «Зімовы заклік» і ўжо пачала дзейнічаць на тэрыторыях пацярпелых краін: Расіі, Беларусі, Украіны і Малдовы.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня Мінскага прадстаўніцтва Міжнароднай Федэрацыі Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца спадар Юрген Кроненбергер, за час мінулагодняй праграмы Беларусі было выдаткавана звыш 400 тысяч долараў, 93 тысячы чалавек атрымалі своечасовую дапамогу. Сёлета суму вырашана павялічыць у 2,5 раза: з 15,5 млн. долараў, якія плануецца сабраць для чатырох краін, Беларусь атрымае каля 1 мільёна на абслугоўванне ляжачых хворых, стварэнне пунктаў бясплатнага харчавання і цэнтраў медыка-сацыяльнай дапамогі.

Цяпер праводзіцца ацэнка сітуацыі, выдзяляюцца групы насельніцтва і рэгіёны, у якіх будзе праводзіцца праграма гуманітарнай дапамогі на працягу 6 месяцаў, уключаючы надыходзячую зіму. У кастрычніку-лістападзе пройдуць кампаніі па збору сродкаў у шэрагу краін-донараў і сярод насельніцтва Беларусі, Расіі, Малдовы і Украіны.

Па планах Чырвонага Крыжа, у Беларусі 2000 чалавек кожны дзень будуць забяспечаны гарачым харчаваннем, 16.300 адзінокіх пажылых людзей, інвалідаў і бежанцаў двойчы атрымаюць прадуктовыя наборы, іх жа атрымаюць і 300 хворых на туберкулёз, будзе размеркавана цёплае зімовае адзенне паміж 55.000 чалавек, а Служба міласэрнасці атрымае ў падарунак самыя неабходныя медыкаменты.

**Аляксандр БЯНЬКО.**

*Ад шчырага сэрца віншую* ***настаўнікаў Закальнецкай СШ Любанскага раёна*** *з прафесійным святам. Моцнага вам здароўя, шчасця, аптымізму, плёну ў важнай і адказнай справе.*

**Былая выпускніца Валянціна Чалей.**

**Шляхі развіцця прадпрымальніцкага сектара і яго роля ў структуры эканомікі краіны былі разгледжаны на ўстаноўчай канферэнцыі Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў. Яна адбылася 1 кастрычніка ў Мінску.**

## ДЗЯРЖАВА МАЕ НАМЕР І Ў ДАЛЕЙШЫМ САДЗЕЙНІЧАЦЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВУ Ў КРАІНЕ

У рабоце гэтага прадстаўнічага сходу прынялі ўдзел прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка, прэм'ер-міністр Сяргей Лінг, вышэйшыя службовыя асобы ўрада, Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Анатоль Малафееў, Старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук, старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Мікалай Дамашкевіч, кіраўнікі міністэрстваў, ведамстваў, дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў краіны, сузаснавальнікі канфедэрацыі, а таксама прадстаўнікі саюзаў, якія выказалі жаданне ўступіць у яе састаў.

На сённяшні дзень у якасці заснавальнікаў у гэту арганізацыю ўвайшлі 15 буйнейшых грамадскіх аб'яднанняў прадпрымальнікаў. На канферэнцыі было адзначана, што яе стварэнне не ставіць мэту замяніць існуючыя саюзы, а накіравана на абарону інтарэсаў сваіх членаў і ўдасканаленне ўзаемаадносінаў паміж дзяржавай і прадпрымальніцтвам.

З прамовай аб дзяржаўнай палітыцы ў галіне падтрымкі і развіцця гэтага сектара эканомікі ў Беларусі выступіў прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка. Канфедэрацыя ствараецца не для таго, каб адкрыць чарговую структуру з вялікім апаратам, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. Яна павінна развіваць партнёрства з дзяржаўнымі структурамі для прадукцыйнай работы на карысць усёй краіны.

«Канфедэрацыя неабходна, каб улічваць, прадстаўляць і балансаваць інтарэсы ўсіх аб'яднанняў і арганізацый, якія працуюць у рэальным сектары эканомікі, — сказаў прэзідэнт. — Яна бачыцца той структурай, якая будзе садзейнічаць канструктыўнаму супрацоўніцтву прадпрымальнікаў з органамі ўлады і прафсаюзамі, прывядзе ў дзеянне ўсе стваральныя сілы нацыі». Вялікі ўклад у гэту справу, адзначыў Аляксандр Лукашэнка, ужо сёння ўнеслі Беларуская навукова-прамысловая асацыяцыя, Беларускі саюз прадпрымальнікаў і арандатараў, іншыя структуры. Пры гэтым, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, галоўнымі штабамі галін ёсць і будуць заставацца міністэрствы. А ў асобе канфедэрацыі прадпрымальнікаў дзяржава будзе мець сур'ёзнага прафесійнага партнёра.

Паводле слоў прэзідэнта Беларусі, для развіцця гэтай сферы эканомікі ў краіне сёння распрацоўваюцца нармальная заканадаўчая база, праект Падатковага кодэкса, ствараюцца раўназначныя ўмовы развіцця дзяржаўных і недзяржаўных прадпрыемстваў, асабліва тых, якія працуюць у вытворчасці.

«Наша рэспубліка сёння жыве ў неадназначных умовах фарміравання многаўкладнай эканомікі маладой суверэннай дзяржавы і менавіта цяпер, як ніколі, патрабуецца аб'яднанне намаганняў усіх слаёў грамадства», — падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## «ТРЭБА ПАДТРЫМАЦЬ ПРАДПРЫМАЛЬНІКАЎ...»

У адносінах паміж дзяржавай і прадпрымальнікамі краіны намеціўся прагрэс. Аб гэтым заявіў прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка ў інтэрв'ю журналістам на ўстаноўчай канферэнцыі Беларускай канфедэрацыі прадпрымальнікаў 1 кастрычніка ў Мінску.

«Асаблівае задавальненне прынесла нядаўняя сустрэча з прадстаўнікамі прадпрымальніцкіх структур, — адзначыў прэзідэнт. — Яны адкрыта, сумленна выказалі сваю пазіцыю і падтрымалі палітыку дзяржавы ў адносінах да прадпрымальніцтва. Мы сёння стварылі такое асяроддзе, якое дае магчымасць ім жыць і спакойна гадаваць сваіх дзяцей».

Нават у пытанні рэгістрацыі і перарэгістрацыі ўжо няма асаблівай напружанасці, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы. Людзі разумеюць неабходнасць гэтага працэсу. Аднак Аляксандр Лукашэнка лічыць, што трэба падтрымаць, дапамагчы прадпрымальнікам, ствараючы для іх абсалютна аднолькавыя ўмовы з дзяржаўнымі прадпрыемствамі і структурамі.

На пытанне аб тым, як беларускі прэзідэнт ставіцца да расійскай антыкрызіснай праграмы, што абмяркоўвалася ў ходзе сустрэчы з прэм'ер-міністрам гэтай краіны Яўгенам Прымаковым, Аляксандр Лукашэнка адказаў: многае з таго, што зроблена ў Беларусі сёння, супадае з тым, што думае рабіць расійскі ўрад. Гэта датычыць сацыяльна арыентаванай эканомікі, яе дзяржаўнага рэгулявання і іншых працэсаў. «Я задаволены, што Расія паглядзела на свайго малодшага брата і сінхранізавала асобныя працэсы з тымі, якія адбываюцца ў Беларусі», — адзначыў прэзідэнт.

Што датычыць усерасійскай акцыі пратэсту, якая запланавана на 7 кастрычніка, то кіраўнік дзяржавы лічыць, што яе водгаласаў баяцца няма чаго. «Мы робім ўсё магчымае для таго, каб прылаўкі не апусцелі і чалавек мог набыць неабходнае, сказаў Аляксандр Лукашэнка. — Створаны вялікія запасы прадуктаў харчавання на зіму. Такіх і ў савецкі час не было. Нашым людзям грэх прад'яўляць тыя прэтэнзіі, якія прад'яўляе расійскі народ да кіраўніцтва сваёй краіны».

**Тэрэза ХАЮЦІНА, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСЬ ГАТОВА ДА ЎСТАНАЎЛЕННЯ ЦЕСНЫХ КАНТАКТАЎ З КРЫМАМ

**Наша краіна хацела б супрацоўнічаць з рэгіёнамі Украіны па такому ж прынцыпу, як гэта адбываецца ў беларуска-расійскіх адносінах. Аб гэтым заявіў Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка на сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнай Рады Аўтаномнай Рэспублікі Крым Леанідам Грачом, якая адбылася 1 кастрычніка ў рэзідэнцыі кіраўніка беларускай дзяржавы, што на Вайсковым завулку. Яна стала працягам дыялогу, які пачаўся ў Крыме ў час візіту ва Украіну Аляксандра Лукашэнкі.**

На думку прэзідэнта, у час гэтых перагавораў павінны быць вызначаны канкрэтныя напрамкі, па якіх будзе развівацца беларуска-крымскае супрацоўніцтва. Наша краіна гатова да ўстанаўлення цесных кантактаў з гэтай аўтаномнай рэспублікай у самых розных сферах, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. Ён таксама адзначыў, што ўзаемавыгаднае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Крымам мае добрыя перспектывы.

Тое, што перагаворы з кіраўніцтвам нашай краіны паслужаць добрым імпульсам да ўстанаўлення трывалых двухбаковых адносінаў Беларусі і Крыма, адзначыў і Леанід Грач. На яго думку, крымчане падтрымліваюць гэты працэс. І нават калі не ўсё кола пытанняў будзе вырашана на цяперашняй сустрэчы, дзелавыя людзі з абодвух бакоў пачнуць больш актыўна развіваць двухбаковыя кантакты ў эканоміцы, гандлі і культуры.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## БЕЛАРУСКА-КРЫМСКІЯ АДНОСІНЫ БУДУЦЬ РЭГУЛЯВАЦЦА ДАГАВОРАМ

Двухбаковае супрацоўніцтва парламентарыяў Беларусі і Крыма стала прадметам абмеркавання на сустрэчы Старшыні Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу нашай краіны Паўла Шыпука з кіраўніком Вярхоўнай Рады Крыма Леанідам Грачом.

Паводле слоў Паўла Шыпука, беларуска-крымскія адносіны, якія могуць паспяхова развівацца ў розных сферах грамадска-палітычнага і гаспадарчага жыцця, павінны атрымаць трывалую дагаворна-прававую базу. Парламентарыі абодвух бакоў пастараюцца зрабіць усё, каб заканатворчы працэс у гэтым напрамку развіваўся даволі хутка і рэзультатыўна, падкрэсліў Павел Шыпук. Кіраўнік Вярхоўнай Рады Крыма з задавальненнем адзначыў упарадкаваную структуру функцыянавання заканадаўчай і выканаўчай галін улады ў Беларусі. У яго словах гучала і добрая зайздрасць да беларускага народа, у якога ёсць такі ярка выражаны палітычны лідэр, як Аляксандр Лукашэнка.

**Вольга ШЧАДРЫНА, БЕЛТА.**

## ЛЕАНІД ГРАЧ ЗА ЧЛЕНСТВА УКРАІНЫ Ў САЮЗЕ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

### *Але ён падкрэсліў, што гэта яго асабістая пазіцыя*

**Дэлегацыя Аўтаномнай Рэспублікі Крым на чале са Старшынёй яе Вярхоўнай Рады Леанідам Грачом і прэм'ер-міністрам Сяргеем Куніцыным чатыры дні знаходзілася на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь па запрашэнню Прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.**

Госці пабывалі ў кіраўніка дзяржавы, у парламенце, ва ўрадзе, наведалі Гомельшчыну і пабывалі на прадпрыемствах. Вынікам візіту стала падпісанне 1 кастрычніка Пагаднення аб эканамічным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Крымам, разлічанага на дзесяць гадоў. Такім чынам, Крым першы з украінскіх рэгіёнаў пайшоў па дарозе, пракладзенай дзесяткамі расійскіх абласцей і аўтаномій, і ўстанавіў прамое супрацоўніцтва з беларускім урадам. Гэта павінна паспрыяць росту ўзаемнага тавараабароту Беларусі і Украіны, які за гэты год упаў на 16,5 працэнта.

— Сёння ў нашым супрацоўніцтве існуе крайняя неабходнасць, — зазначыў Старшыня Вярхоўнай Рады Крыма Леанід Грач пасля перагавораў у Савеце Рэспублікі Нацыянальнага сходу, — таму што негатыўныя працэсы ў эканоміцы і, як вынік, у сацыяльнай сферы патрабуюць таго, каб мы збліжаліся. Мы зможам аднавіць наш рынак толькі ўнутры тых рэгіёнаў, якія раней былі звязаныя, у брацкіх рэспубліках.

Ініцыятарам гэтага візіту крымскай дэлегацыі быў Аляксандр Лукашэнка, ён запрасіў крымчан у Беларусь, калі сам наведваў паўвостраў Крым падчас сустрэчы з прэзідэнтам Украіны Леанідам Кучмам.

— Крым мае асаблівы статус як аўтаномія, і мы маем што прапанаваць Беларусі, а Беларусь — нам, таму мы вельмі рады, што беларускі бок на ўзроўні і прэзідэнта, і абедзвюх палат парламента, і ўрада, і галоўнае — на ўзроўні рэгіёнаў і вытворцаў гэта актыўна падтрымлівае. А таксама вельмі важна, што гэта па душы нашым народам. Дык чаму ж брат з братам, сястра з сястрою не павінны супрацоўнічаць і не дапамагаць адзін аднаму? Не трэба нам шукаць шчасця дзесьці за межамі брацкай сям'і, — шчыра падкрэсліў Леанід Грач, які з'яўляецца лідэрам крымскіх камуністаў, што перамаглі на сёлетніх веснавых выбарах.

Адказваючы на пытанні, ён таксама сказаў, што станоўча адносіцца да ідэі стварэння «саюза трох славянскіх краін у саставе Беларусі, Расіі і Украіны». Але зазначыў, што гэта ягонае асабістае меркаванне. Ніякіх прымет магчымага сепаратызму крымскіх уладаў падчас сустрэч заўважана не было. Перагаворы ішлі пад украінскім і беларускім сцягамі ў прысутнасці пасла Украіны ў Беларусі А. Дроня. Наадварот, Леанід Грач палічыў неабходным падкрэсліць, што Крым жыве «выключна ў прававым полі Украіны» і прызнае існуючыя тэрытарыяльныя рэаліі, усякі радыкалізм у такой далікатнай сферы, як тэрытарыяльная цэласнасць і нацыянальныя адносіны, для сучасных крымскіх уладаў непрымальны. Тым не менш, Леанід Грач выказаў пэўную занепакоенасць магчымым павелічэннем уплыву Турцыі і ісламскага фактара ў ягоным рэгіёне.

— Справа не ў саміх крымскіх татарах як народзе, які пацярпеў і які вяртаецца. Справа ў мусульманскім фактары і пашырэнні ісламскага фронту, яго наступленні на славянскі свет, — зазначыў Л. Грач.

Па словах Леаніда Грача, у Крыме вельмі складаная сацыяльна-эканамічная абстаноўка, дапушчана вялікая запазычанасць па зарплатах бюджэтнікам і выплатах пенсій, некаторыя прадпрыемствы не працуюць па два гады, і ў цэлым узровень жыцця там горшы, чым у Беларусі. Яшчэ адна вострая праблема, якую вырашае новая крымская ўлада, — барацьба з крыміналам. Сітуацыя тут настолькі вострая, што, па меркаванню Л. Грача, яшчэ крыху — і ў Крыме крымінал мог узначаліць усю ўладу. У ранейшым парламенце і ўрадзе Крыма пазіцыі крымінальных структур былі ўжо даволі грунтоўныя, і толькі веснавыя выбары змянілі сітуацыю да лепшага. «Цяпер крымінал — наш асноўны апанент», — зазначыў Старшыня Вярхоўнай Рады Крыма.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Ахвяры былі ў змове з рабаўнікамі

**Крымінальная ніша таксама доўга не пустуе. Ледзь толькі міліцыя навяла належны парадак на беларускіх дарогах, ачысціўшы іх ад рэкеціраў і разбойнікаў, а вызваленую тэрыторыю ўжо спрабуюць асвоіць айчынныя і замежныя прайдзісветы. У прыватнасці, апошнім часам у Беларусі з'явіліся аматары згуляць з вартавымі правапарадку ў «казакоў-разбойнікаў». Што з гэтага атрымліваецца? Паслухаем начальніка ўпраўлення крымінальнага вышуку МУС краіны Юрыя ГАЙДАША.**

— Сапраўды, некаторыя замежныя і нават айчынныя прайдзісветы ўпэўнены, што па дарогах Беларусі гойсаюць цэлыя «шайкі» разбойнікаў і на гэтым можна зарабіць немалыя грошы.

**— Цікава, як гэта на разбойніках нехта ўхітраецца зарабіць грошы?**

— Схема вельмі простая. Хоць і патрабуе пэўных артыстычных здольнасцяў. Вось некалькі самых тыповых прыкладаў.

Польскі вадзіцель вялікагрузнага аўтамабіля вясной гэтага года звярнуўся ў міліцыю з заявай, у якой паведамлялася, што ў Віцебскай вобласці на яго напалі дарожныя разбойнікі. Па словах пацярпелага, яго спынілі на дарозе людзі ў міліцэйскай форме, потым, пагражаючы зброяй, забралі аўтамабіль з грузам, а самога вадзіцеля адвезлі аж пад Мінск і выкінулі ў бязлюдным месцы. На першы погляд — тыповая карціна разбойнага нападу. Калі б такую гісторыю супрацоўнікам крымінальнага вышуку пацярпелы расказаў яшчэ некалькі гадоў таму, міліцыянеры не здзівіліся б. Але сёлета падобныя злачынствы ў Беларусі адбываюцца вельмі рэдка. Ды і вадзіцель блытаўся ў паказаннях, калі яго прасілі ўспомніць больш падрабязна гісторыю з разбойным нападам. Словам, у дэтэктываў закраліся сумненні наконт праўдзівасці ўсёй гэтай гісторыі. Праўда, ахвяру разбою на дарозе адпусцілі дамоў, бо важкіх падстаў для яго затрымання не было. Але ў хуткім часе міліцыянеры знайшлі той самы аўтамабіль з каштоўным грузам. І вось тут высветлілася, што на польскага вадзіцеля ніхто не нападаў. Ён папярэдне дамовіўся з адной расійскай камерцыйнай структурай і прадаў расіянам грузавік за некалькі дзесяткаў тысяч долараў, а потым заявіў у міліцыю аб «разбойным нападзе». Зараз гэтая «ахвяра» знаходзіцца ў міжнародным вышуку.

Аналагічную гісторыю аб разбойным нападзе зусім нядаўна прыдумаў і адзін з мінскіх таксістаў. Ён заявіў ва ўпраўленне ўнутраных спраў Маскоўскага раёна сталіцы, што ноччу двое невядомых пасажыраў, пагражаючы пісталетам, адабралі ў яго «дзённую выручку» ў суме 2 мільёнаў 800 тысяч рублёў. Аднак, як высветлілася ў працэсе следства, грошы гэтыя таксіст прысвоіў і спрабаваў «спісаць» на невядомых разбойнікаў. Відавочна, гэты прайдзісвет спадзяваўся, што ў гісторыю з разбойным нападам дэтэктывы лёгка павераць, паколькі раней падобныя злачынствы сапраўды нярэдка здараліся ў нашай краіне.

Дарэчы, імітацыяй разбойных нападаў апошнім часам у Беларусі займаліся не толькі асобныя грамадзяне, але і цэлыя злачынныя групоўкі.

Напрыклад, адна з такіх груповак была выяўлена ў Мінску. Вартаўнік аднаго са сталічных прадпрыемстваў паведаміў у Фрунзенскае РУУС, што двое невядомых у міліцэйскай форме, пагражаючы пісталетам, звязалі яго і вынеслі са склада каштоўныя рэчы. Калі ж дэтэктывы пачалі дэталёва разбірацца, то выявілі, што вартаўнік быў у змове з разбойнікамі. Больш таго, падчас следства былі выяўлены яшчэ 3 удзельнікі гэтай «тэатральнай трупы», якая спецыялізавалася на імітацыі разбойных нападаў. Зараз удзельнікі такіх злачынстваў прыцягнуты да адказнасці адразу па двух артыкулах Крымінальнага кодэкса: за крадзяжы і за заведама хлуслівыя даносы ў міліцыю.

**— Юрый Аляксандравіч, наколькі я зразумеў, артыстам з вялікай дарогі не ўдаецца ўвесці ў зман супрацоўнікаў крымінальнага вышуку. А наколькі эфектыўна змагаюцца беларускія дэтэктывы з сапраўднымі разбойнікамі?**

— На гэтым участку фронту барацьбы са злачыннасцю мы таксама дасягнулі пэўных поспехаў. У прыватнасці, раскрывальнасць разбойных нападаў за 8 месяцаў гэтага года склала 77,7 працэнта. Летась гэты паказчык складаў 69,3 працэнта. Таму заканамерна, што і колькасць саміх разбойных нападаў сёлета скарацілася на 11,8 працэнта. Колькасць грабяжоў у краіне зменшылася на 15,5 працэнта.

Што датычыць разбояў на дарогах, то іх колькасць сёлета зменшылася амаль у тры разы. Прычым фактычна ўсе гэтыя злачынствы ўжо раскрыты. Так што айчынныя і замежныя прайдзісветы выбралі не самы зручны момант гуляць з міліцыяй у «казакоў-разбойнікаў».

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

**P.S. 5 кастрычніка спаўняецца 80 гадоў службе крымінальнага вышуку Беларусі. «Звязда» шчыра віншуе беларускіх дэтэктываў з гэтым слаўным юбілеем.**

# Органы ўнутраных спраў Беларусі і Расіі правялі аперацыю «Памежжа»

**Па інфармацыі начальніка УУС Магілёўскага аблвыканкама Віталя Апанасевіча, пранікненне злачынных элементаў і асабліва арганізаваных злачынных груп на тэрыторыю Беларусі стала прычынай сустрэчы кіраўнікоў упраўленняў унутраных спраў памежных абласцей з удзелам першага намесніка міністра ўнутраных спраў Беларусі Міхаіла Удовікава і намесніка міністра ўнутраных спраў Расіі Уладзіміра Рушайлы.**

На ёй быў вызначаны час аперацыі «Памежжа», якая праводзілася на працягу шасці дзён з перапынкам у два дні. Кожны дзень з боку трох беларускіх абласцей — Магілёўскай, Віцебскай і Гомельскай — брала ўдзел у аперацыі прыкладна 1300 чалавек, з боку Расіі — каля 10 тысяч.

У выніку аперацыі «Памежжа» на тэрыторыі Беларусі ўзбуджана 400 крымінальных спраў, расійскімі супрацоўнікамі ўнутраных спраў — 670 спраў. Поспех аперацыі выклікаў з боку грамадзян і Расіі і Беларусі пазітыўную рэакцыю, сказаў у інтэрв'ю Віталь Апанасевіч. «Затрыманы злачынцы, якія знаходзіліся ў вышуку. Раскрыты шэраг забойстваў, у тым ліку адно ў Смаленску, якое выклікала вялікі грамадскі рэзананс. На тэрыторыі Расіі быў затрыманы і перададзены нашым органам чалавек, які здзейсніў эканамічнае злачынства ў Беларусі, урон ад якога склаў паўтара мільярда рублёў. Затрыманы двое грамадзян Беларусі — жыхароў Мінскай вобласці і Крычава, якія перавозілі грамадзян Шры Ланкі на заходнюю мяжу. Карацей, кіраўнікі міліцыі памежных абласцей прыйшлі да высновы, што трэба часцей сустракацца, весці абмен аператыўнай інфармацыяй і праводзіць сумесную работу. Мяркую, што ў бліжэйшы час адбудзецца наша новая сустрэча.»

Начальнік Магілёўскага абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў таксама паведаміў, што на чарговай калегіі абмяркоўваліся магчымасці паляпшэння работы па выкананню Дэкрэта прэзідэнта аб абароне спажывецкага рынку. За прайшоўшы час супрацоўнікамі міліцыі вобласці было затрымана грузаў на суму 10 мільярдаў беларускіх рублёў. Аднак у далейшым на частку затрыманага ўладальнікі прад'явілі дакументы, якія дазвалялі вываз прадуктаў харчавання за мяжу. Таму сума канфіскаваных тавараў сёння складае 8 мільярдаў рублёў. Па рашэнню судоў канфіскавана 6 адзінак аўтатранспарту.

Віталь Апанасевіч пацвердзіў, што сёння на памежжы задзейнічаны значныя сілы і сродкі, што дазваляе міліцыі поўнасцю кантраляваць сітуацыю і прадухіліць незаконны вываз тавараў з краіны. Аднак пасты дарожнай міліцыі і перасовачныя групы выконваюць і сваю асноўную задачу — ствараць заслон злачынцам з Расіі, бо, па статыстыцы, кожнае трэцяе злачынства ў Магілёўскай вобласці ўчыняецца з удзелам расійскіх грамадзян. Кіраўнік міліцыі рэгіёна лічыць, што гэта адзін з важнейшых накірункаў у рабоце, які дае адчувальныя вынікі: зараз у Магілёўскай вобласці зарэгістравана на 2400 злачынстваў менш, чым летась; скарацілася колькасць цяжкіх злачынстваў, пераважна — грабяжоў і разбояў.

**Ілона ІВАНОВА.**

# НАША СІЛА — У БРАЦКІМ ЯДНАННІ

**Успамінаючы сваё знаходжанне на гасціннай зямлі Беларусі, выказваю вам шчырую і глыбокую ўдзячнасць за ваш дзейсны клопат як прэзідэнта аб тым, каб наша паездка ў Патрыяршы Экзархат Беларускай праваслаўнай царквы і шматлікія сустрэчы, прадугледжаныя ў праграме, прайшлі, пры вашым непасрэдным садзейнічанні, на бездакорнай арганізацыйнай аснове і з найбольшай узаемнай карысцю і прадукцыйнасцю. Аб гэтым гаворыцца ў пісьме патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II да кіраўніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнкі.**

«За час непрацяглага, але выключна плённага візіту мы знайшлі самае важнае, да чаго імкнуліся і на што спадзяваліся з самага пачатку паездкі, а менавіта — бачнае адчуванне жывой любові да народа Расіі з боку беларускага народа, — любові, карані якой ідуць у шматвяковую агульную гісторыю братэрскіх узаемасувязяў нашых народаў», — адзначаецца ў пасланні.

Алексій II адзначыў, што беларуская зямля — сапраўды шматпакутная. Ніколі не перастане адклікацца болем у сэрцы той факт, што за час вайны краіна страціла кожнага чацвёртага са сваіх сыноў і дачок, а ў некаторых раёнах — кожнага другога. Гэта вялікая трагедыя — у памяці беларусаў, і яны добра разумеюць, наколькі важна і жыццёва неабходна цяпер захоўваць адзінства і не паддавацца на безадказныя заклікі розных дэструктыўных сіл, якія імкнуцца да ажыццяўлення неапраўданай дэзінтэграцыі праз чужыя і непрымальныя для дзвюх краін раздзяленне і сепаратызм. «Наша сіла заключаецца толькі ў брацкім яднанні — і Руская праваслаўная царква, са свайго боку, на працягу ўсёй сваёй 1000-гадовай гісторыі нязменна аб'ядноўвала і кансалідавала славянскія народы на адзінай і стваральнай духоўнай аснове, дапамагаючы ім паспяхова пераадольваць усе смуты і нестраенні», — лічыць патрыярх.

Алексій II падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за высокую ацэнку кіраўніком беларускай дзяржавы яго дзейнасці як прадстаяцеля Рускай праваслаўнай царквы па развіццю дружалюбных сувязяў паміж народамі і ўзнагароджанне вышэйшай дзяржаўнай узнагародай Рэспублікі Беларусь — ордэнам Францыска Скарыны, а таксама выказаў удзячнасць за ўручэнне высокай узнагароды Патрыяршаму Экзарху Беларускай праваслаўнай царквы, мітрапаліту Мінскаму і Слуцкаму Філарэту за яго важкі ўклад у справу духоўнага адраджэння краіны.

У пасланні да прэзідэнта нашай рэспублікі патрыярх Маскоўскі і ўсяе Русі выказаў надзею, што візіт у Беларусь паслужыць вялікай справе аб'яднання брацкіх народаў напярэдадні падзеі сусветнага значэння — свята 2000-годдзя Нараджэння Хрыстова і ўступлення чалавецтва ў новае XXI стагоддзе.

**БЕЛТА.**

РЭЗАНАНС

## *У рэдакцыю газеты «Звязда»*

**Пракуратурай Рэспублікі Беларусь разгледжаны апублікаваны ў газеце «Звязда» 4.09.98 г. артыкул У. Пернікава «Салодкая спакуса гендырэктара і яго памагатых», у якім выказана сумненне ў законнасці пакарання, прызначанага судом, у адносінах да былога генеральнага дырэктара Рэчыцкага ААТ «Рытм» В. Тарасенкава, яго намесніка Л. Калеснікава, начальніка транспартнага цэха Д. Кузьмянка і галоўнага бухгалтара Т. Бурдзілавай.**

Выяўлена, што прыгаворам суда Калінкавіцкага раёна ад 04.06.98 г. злачынныя дзеянні В. Тарасенкава, Л. Калеснікава і Д. Кузьмянка былі перакваліфікаваныя з часткі 4 арт. 91 КК Рэспублікі Беларусь (крадзеж маёмасці ў асабліва буйных памерах), згодна з якой яны абвінавачваліся следствам, і гэты ж артыкул, які прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ад 8 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці, на частку 2 гэтага ж артыкула і ч. 1 арт. 166 КК Рэспублікі Беларусь (злоўжыванне ўладай ці службовым становішчам), якія прадугледжваюць строгае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі да 7 гадоў, а таксама папраўчыя работы. У сувязі з тым, што дзеяннямі злачыннай групы, якая складалася з вышэйпаказаных службовых асоб ААТ «Рытм», дзяржаве нанесены значны матэрыяльны ўрон, а прызначанае судом пакаранне, як напісана ў артыкуле, не адпавядае цяжкасці ўчыненага, мною было даручана пракуратуры Гомельскай вобласці ўважліва вывучыць матэрыялы папярэдняга і судовага следства па справе і прыняць рашэнне згодна з законам.

Пасля вывучэння матэрыялаў гэтай крымінальнай справы пракурорам Гомельскай вобласці 25.09.98 года ў прэзідыум Гомельскага абласнога суда ўнесены пратэст, у якім прапанавана з прычыны прызначэння судом удзельнікам злачынства празмерна мяккага пакарання і неабгрунтаванай перакваліфікацыі іх дзеянняў прыгавор суда адмяніць і справу накіраваць на новы судовы разгляд.

**Генеральны пракурор Рэспублікі Беларусь**
**А. БАЖЭЛКА**

*Віншуем!*

## Паважаны Анатоль Абрамавіч, не складвайце шашкі «ў ножны»!

**Сёння вядомаму беларускаму шашысту, неаднаразоваму чэмпіёну свету Анатолю Гантваргу спаўняецца 50 гадоў. Юбілей, аднак.**

Знайсці ўчора Анатоля Абрамавіча аказалася справай нялёгкай. Ды яно і зразумела, — перадсвяточныя клопаты... А вось яго жонка Лілія Барысаўна з задавальненнем распавяла нам, што падарунак мужу ўжо падрыхтавала. І хоць не сказала які, затое падзялілася іншым сакрэтам.

«Прыгатую для Толі яго любімыя стравы — чарнаслівы з арэхамі, усялякія прысмакі з мяса і, вядомая рэч, фірменную страву з баклажанаў».

Дарэчы, як стала вядома карэспандэнту «Звязды», афіцыйнае ўшанаванне юбіляра адбудзецца заўтра ў мінскім Палацы шахмат і шашак.

Далучаемся да віншаванняў, Анатоль Абрамавіч!

**Алесь СІВЫ.**

## Крызіс не перашкода для інтэграцыйнага «прарыву»

**Безумоўна, цэнтральнай міжнароднай падзеяй апошніх дзён з'явіўся візіт у Беларусь новага расійскага прэм'ера Яўгена Прымакова. І не выпадкова першы намеснік міністра замежных спраў Сяргей Мартынаў брыфінг для журналістаў пачаў менавіта з гэтага.**

Нядаўні візіт Я. Прымакова, па словах намесніка міністра, быў гранічна насычаны па зместу і гранічна канкрэтны. Але нешта канкрэтнае пра сутнасць перагавораў на брыфінгу было, на жаль, сказана вельмі мала.

Падкрэсліванне С. Мартынавым, адным з самых вопытных беларускіх дыпламатаў, актуальнасці правядзення дакладнай «інвентарызацыі» праблем, паведамленне пра стварэнне міжведамаснай групы па разгляду варыянтаў іх вырашэння наводзяць на роздум аб тым, што сутнасць перагавораў усё ж засталася «за кадрам» сродкаў масавай інфармацыі. Цяжка паверыць, што толькі дзеля «інвентарызацыі», абмеркавання шэрагу іншых, няхай і вострых гаспадарчых праблем, прыляцеў да нас Я. Прымакоў у надзвычай складаны для Расіі час.

Зразумела, многае магло б растлумачыць абнародаванне паслання Барыса Ельцына Аляксандру Лукашэнку. Але С. Мартынаў сказаў, што ён не бачыў тэксту гэтага ліста.

С. Мартынаў паведаміў іншыя вартыя ўвагі факты. Так, паміж Беларуссю і Украінай рыхтуецца доўгатэрміновы дагавор аб эканамічным супрацоўніцтве на 10 гадоў. Плённым абяцае быць таксама супрацоўніцтва з Кувейтам, які валодае велізарнымі валютнымі рэсурсамі, што на ўзаемавыгаднай аснове могуць выкарыстоўвацца ў нашай краіне.

На сесіі Генеральнай Асамблеі ААН прадстаўнікі Беларусі выбраны на шэраг кіруючых пасад органаў кіравання сесіяй. Напрыклад, намеснік пастаяннага прадстаўніка Беларусі Алег Лапцёнак стаў намеснікам старшыні Першага камітэта, які займаецца праблемамі бяспекі і разбраення.

Да нас хутка прыязджае намеснік генсека ААН, які займаецца чарнобыльскай праблематыкай.

Зноў была закранута сітуацыя вакол «Драздоў». С. Мартынаў прызнаў, што гэта праблема з'яўляецца перашкодай у развіцці адносінаў паміж Беларуссю і некаторымі дзяржавамі. Каб яе вырашыць, МЗС краіны вядзе інтэнсіўныя перагаворы з зацікаўленымі бакамі. Міністр Іван Антановіч даслаў шэрагу сваіх калег пісьмы, у якіх прапаноўваецца каля чатырох дзесяткаў варыянтаў размяшчэння новых рэзідэнцый паслоў. Ужо ёсць пэўныя зрухі ў вырашэнні гэтай сітуацыі, паведаміў С. Мартынаў.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

# Камітэт цэн збіраецца вынесці на абмеркаванне ўрада прапановы па змяненню спекуляцыйнага фарміравання цэн на тавары

***У мінулым нумары «Звязды» была змешчана інфармацыя, гаворка ў якой ішла пра тыя цэны, што ўсталяваліся сёння на паліцах дзяржаўных магазінаў на шэраг харчовых і прамысловых тавараў, прычым як імпартных, так і айчынных. Цэны, скажам прама, шалёныя, асабліва калі ўлічыць запэўніванні накшталт таго, што «абвалу» не будзе. Калі гэта не абвал, тады што? Гэтыя і іншыя пытанні цікавяць, безумоўна, усіх. Што не спрацавала, чаму за кароткі прамежак часу жыццё так падаражэла, як будзем жыць далей? Нервовасці дадае і тое, што традыцыйна разам з «мінімалкай» павялічваецца і кошт многіх паслуг і тавараў. Атрымліваецца, высокія цэны стануць яшчэ большымі? Шэраг прамысловых прадпрыемстваў, транспартнікі, сувязісты, камунальшчыкі толькі і чакаюць дазволу павялічыць тарыфы на свае паслугі і тавары. Па каментарыі мы звярнуліся да інфармаванай крыніцы ў Камітэце цэн пры Мінэканоміні.***

**— Напружанасць у грамадстве можна зразумець: было абяцана, што рост цэн не будзе абвальным, на самай жа справе ўсё атрымліваецца інакш, прынамсі, у дачыненні да тавараў, якія ўвозяцца ў краіну. А тут яшчэ чаканне чарговага павелічэння...**

— Раней цэны на сацыяльна значныя групы тавараў рэгуляваліся Камітэтам цэн, цяпер кожная пазіцыя па гэтых таварах разглядаецца ва ўрадзе. Сапраўды, многія прадпрыемствы, галіны народнай гаспадаркі звярнуліся з просьбай дазволіць павялічыць цэны. Вядома, іх зразумець можна, але не трэба забывацца і аб простых людзях. Напрыклад, той жа Мінсельгасхарч хацеў бы разам вырашыць усе свае праблемы, узняўшы цэны на малочную і на мясную групу тавараў і гэтак далей. Безумоўна, такога не будзе. Усе такія просьбы зараз усебакова вывучаюцца, «абсмоктваюцца», каб не дапусціць абвалу цэн, які закране спажыўцоў. З 1 кастрычніка ніякіх павелічэнняў не было. Не магу сказаць, што іх не будзе на працягу месяца і далей, аднак працэс будзе праходзіць плаўна. Скажам, спачатку будзе задаволена адна пэўная пазіцыя аднаго міністэрства, праз тыдзень — яшчэ адна пазіцыя ужо другога і гэтак далей. Справа тут ускладняецца тым, што цяжка вызначыцца, як праводзіць патрэбныя падлікі. Вядома, зараз існуе некалькі курсаў долара: Нацыянальнага банка, «чорны» і міжбіржавы. Згодна з дзеючай метадалогіяй падлікаў, у сабекошт прадукцыі ці паслуг прадпрыемстваў мы павінны закладваць курс, які ўстанаўліваецца Нацбанкам. Ці шмат можна набыць валюты па такому курсу? Яна выдзяляецца хіба на нафтапрадукты, збожжа, мінеральныя ўгнаенні, яшчэ некаторыя віды прадукцыі. Астатнія па якому курсу набываюць?..

**— Колькі слоў наконт цэн, што склалася зараз на пэўныя тавары ў дзяржгандлі. Асабіста я лічу іх якраз абвальнымі. Чаму ў камерсанта на рынку той жа рыс ці грэцкія крупы каштуюць крыху больш чым 60 тысяч за кілаграм, а ў магазінах — удвая і больш даражэй? Гандляр жа таксама набывае валюту на «чорным» рынку, нясе транспартныя выдаткі, ды і сабе прыбытак закладвае. І ўсё роўна ў яго цана меншая.**

— Так, хаця Камітэт цэн не рэгулюе цэны на прадукцыю, якая завозіцца з-за мяжы краіны, аднак мы ўсур'ёз усхваляваны тымі цэнамі на шэраг тавараў, якія назіраюцца зараз у гандлі. Яны могуць хутка вельмі балюча закрануць людзей.

**— Колькі ж гэтыя прадукты павінны каштаваць на самай справе?**

— Столькі, колькі яны каштуюць на рынках, гэта іх сапраўдная цана. Тое, што мы назіраем у магазінах, нічым іншым, як штучным узвінчваннем цэн, назваць нельга. Якая тут пазіцыя таго ж Міністэрства гандлю, Белспажыўкааперацыі? Галоўнае, каб усё было, каб быў асартымент. А па якому кошту — гэта іх ужо не турбуе. А трэба каб турбавала не толькі насычанасць паліц магазінаў, але і тое, па якому канчатковаму кошту дойдуць тавары да спажыўца. Магчыма, ім трэба больш жорстка працаваць з пастаўшчыкамі, працаваць найперш з тымі з іх, хто прапануе найменшую цану на сваю прадукцыю.

**— Патлумачце, як атрымліваюцца такія цэны?**

— Яны пачынаюць расці ўжо на першым этапе, з імпарцёра, які да закупачнай цаны «дабаўляе» яшчэ каля 50 працэнтаў. Яшчэ 20 працэнтаў дадае аптовая база, потым яшчэ столькі ж — гандаль. Вось вам і цана, якую мы бачым зараз у магазінах: рыс па 101—112 тысяч рублёў, алей — па 265 тысяч і гэтак далей. Ці можа быць іншая схема, калі тавар на шляху да спажыўца праходзіць праз ланцуг пасрэднікаў, кожны з якіх хоча нешта мець з яго асабіста? Вынік той жа.

**— Як спыніць гэтую спекуляцыю? Наколькі я разумею, гандлёвыя надбаўкі змяншаць нельга. На якім этапе магчыма нешта змяніць?**

— Так, спекуляцыю, я згодзен з вамі... Пытанне вельмі складанае. Згодна з адной пастановай урада, імпарцёр мае права сам фарміраваць цану...

**— Выходзіць, «ціснуць» на яго нельга, бо калі гэта яму будзе нявыгадна, ён адмовіцца ад паставак...**

— Так, такія выпадкі ўжо былі. Што тут можна сказаць? У нас ёсць пэўныя напрацоўкі, мы літаральна днямі збіраемся вынесці іх на разгляд урада.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Высокія цэны фарміруе безнаяўны курс долара

**На публікацыю адносна высокіх цэн у дзяржгандлі адгукнуўся наш чытач — дырэктар сталічнага гандлёвага прадпрыемства Генадзь БАЛАБОЛАЎ. Яно размешчана ў цэнтры сталіцы, мае два магазіны. Генадзь Васільевіч мае самае непасрэднае дачыненне да таго механізма цэнаўтварэння, па якім зараз фарміруюцца цэны на пэўныя тавары, што ўвозяцца да нас з-за межаў краіны. Ён выклаў сваё бачанне праблемы, карані якой ляжаць у існаванні некалькіх курсаў валют.**

«Вы пішаце, што бутэлька алею, кілаграм рысу, грэцкіх круп каштуе шалёных грошай. Сапраўды, так яно часта і ёсць. А побач прадаюцца тавары па больш нізкіх цэнах. Адкуль яны тады бяруцца? Як вядома, гандаль за наяўную валюту забаронены. Безнаяўны курс долара зараз складае 230 тысяч рублёў. Набываючы тавар па такому курсу, яго аўтаматычна трэба закладваць у сабекошт. Усе разлікі праходзяць праз банк — значыць, ты плаціш падаткі. Але некаторыя набываюць прадукцыю на аптовых прадпрыемствах уцікую за валюту. «Чорны» курс долара зараз — 105 тысяч рублёў. Гэтая ж сума кладзецца ў сабекошт. І ў першым, і ў другім выпадку закладваецца гандлёвая надбаўка. Але той, хто набывае тавар па безнаяўнаму разліку, мае цану на яго ў рэшце рэшт 300 тысяч рублёў, а хто па чорнаму «налу» — 180 тысяч. Розніца?!

Акрамя таго тыя, хто працуюць з наяўнымі доларамі, вядома, не плацяць ніякіх падаткаў».

*Генадзь Балабанаў лічыць, што адзінае выйсце з такой сітуацыі — дазволіць банкам свабодную куплю-продаж валюты па рэальнаму курсу. «Усе валютчыкі разам знікнуць, не будзе ніякіх спекуляцый. Вядома, і цэны на імпартныя тавары павінны будуць стабілізавацца».*

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

СКАНДАЛ

## Пралёт «нармальны»?..

**Учора югаслаўская гандбольная каманда «Црвена Звезда» так і не дачакалася сваіх супернікаў па 1/16 фіналу розыгрышу Кубка еўрапейскіх чэмпіёнаў — мінскі клуб СКА.**

Як стала вядома карэспандэнту «Звязды», транспартны самалёт беларускіх Ваенна-паветраных сіл, на якім і ляцелі армейцы, завярнулі назад службы кіравання паветраным рухам Венгрыі, забараніўшы пралёт над сваёй тэрыторыяй. Учора, недзе каля 15.00, самалёт прызямліўся ўжо дома.

На камандным пункце беларускіх ВПС нам пацвердзілі гэты факт, але ад больш падрабязных каментарыяў устрымаліся.

Сцвярджаюць, што заяўка на пралёт была загадзя ўзгоднена з венграмі, аднак гандбалістам ад гэтага не лягчэй — калі яны не трапяць на заўтрашні матч, то клуб будзе аштрафаваны на кругленькую суму «зялёных».

**Алесь СІВЫ.**

**На пасяджэнні Савета Міністраў, якое адбылося нядаўна і на якім былі абмеркаваны цяперашнія эканамічныя праблемы, закраналася і становішча на валютным рынку. Пры гэтым у дакладзе прэм'ер-міністра адзначалася, што становішча на ім застаецца складаным і супярэчлівым. Як было зазначана, дырэктараў беларускіх прадпрыемстваў не задавальняюць множнасць валютных курсаў, што ўскладняе калькуляванне і ўлік, значны разрыў паміж афіцыйным і рынкавым курсамі, што робіць нявыгадным абавязковы продаж валюты; дэфіцыт СКВ на валютнай біржы, што тармозіць плацежны працэс аднаўлення; абавязковы продаж часткі валютнай выручкі па нізкаму афіцыйнаму курсу, што прыводзіць да страты часткі абаротных сродкаў. У дакладзе адзначалася, што Нацбанку неабходна перагледзець практыку ўплыву на рынкавае курсаўтварэнне, якая склалася, і не замыкацца толькі валютнай біржай. Падкрэслівалася таксама, што ніхто не адмяняў наступнага залатога правіла грашовага абарачэння: для таго, каб вызначыць мінімальны (базавы) узровень курса нацыянальнай грашовай адзінкі, неабходна грашовую масу раздзяліць на валютныя рэзервы. Пры гэтым зазначалася, што рэальная сітуацыя прымушае больш крытычна ацэньваць эмісійную актыўнасць...**

**З просьбай больш дэталёва спыніцца на гэтых заўвагах мы звярнуліся да вядомага спецыяліста банкаўскай справы, члена навукова-кансультатыўнага савета Нацыянальнага банка, прафесара Міхаіла КАВАЛЁВА.**

# ПАРАДАК НА ВАЛЮТНЫМ РЫНКУ НЕ ЗАДАВАЛЬНЯЕ МНОГІХ. ШТО ДАЛЕЙ?

**— Міхаіл Міхайлавіч, напэўна, ці не найбольш злабадзённай праблемай з'яўляецца множнасць курсаў. Аб тым, што гэта не зусім нармальная з'ява, што множнасць курсаў не лепшым чынам уплывае на дзейнасць суб'ектаў, што яна скажае эканамічныя арыенціры, гаварылася ўжо нямала. І, тым не менш, гэта з'ява паспяхова існуе...**

— Праблема множнасці курсаў сапраўды мае месца. І гэта дыскусійная праблема. Пункт погляду Сусветнага банка і МВФ, а таксама многіх эканамістаў наступны: курс павінен быць свабодным, рынкавым, г. зн. ён павінен вызначацца толькі на аснове попыту і прапанавання. Аднак варта мець на ўвазе і тое, што ў перыяд развіцця заходніх эканомік курсы ў іх таксама былі фіксаванымі (а адсюль, па сутнасці, і бярэ свой пачатак праблема множнасці), а ў апошні час, пасля азіяцкага крызісу асобныя краіны (напрыклад, Малайзія) зноў пачалі вяртацца да фіксаванага курсу (і фактычна — да множнасці і абмежаванняў па доступу на валютныя рынкі). Якая стратэгія аптымальная для Беларусі? Пры гэтым будзем таксама мець на ўвазе: пры дэфіцыце валюты заўсёды знойдзецца хтосьці, гатовы заплаціць і па 300 тысяч, каб купіць «Мерседэс», хоць, скажам, у другога не хопіць грошай і па 100 тысяч за долар, каб купіць, напрыклад, лекі для бальніцы....

Калі перайсці на адзіны, на свабодны рынкавы курс, то ён, бясспрэчна, спыніцца на адзнацы не ніжэй як 100 тысяч рублёў за долар. А гэта значыць, што роўна ў 2 разы падскочаць рублёвыя цэны на нафту, газ і іншыя энерганосьбіты, якія купляюцца за валюту, набываемую цяпер на Міжбанкаўскай валютнай біржы па афіцыйнаму курсу. З улікам высокай энергаёмістасці валавога ўнутранага прадукту недзе праз 2 месяцы (тэрмін, за які новая цана энерганосьбітаў пяройдзе на канчатковы прадукт) падаражэе ўсё. Вось гэты аргумент звычайна і прыводзіцца ў апраўданне таго, што валюту на энерганосьбіты трэба купляць па льготнаму курсу...

Асабіста я мяркую, што калі захаваць нізкі курс для закупкі энерганосьбітаў, медыкаментаў — ён павінен стаць неафіцыйным. Гэта азначала б, што экспарцёры 40 працэнтаў сваёй валютнай выручкі прадавалі б па гэтаму курсу на спецыяльны рахунак урада (без усякай біржы), а ўрад з гэтага рахунку і аплачваў бы энерганосьбіты. Уся ж астатняя валюта, заробленая экспарцёрамі, ішла б на біржу і прадавалася б там па свабоднаму курсу. Суб'екты ў выніку не вымушаны былі б звяртацца да паслуг розных пасрэднікаў, прадаваць сумленна заробленую валюту ў падваротнях.

Увогуле я вызначыў бы два варыянты далейшай валютнай палітыкі. Пра першы, па сутнасці, ужо сказана: гэта захаванне льготнага курса для закупкі энерганосьбітаў, на якія пайшлі б тыя ж абавязковыя 40 працэнтаў, і свабодны продаж на біржы суб'ектамі астатняй валюты, адпаведна ж — афіцыйныя каціроўкі на аснове гэтага продажу. Тады, дарэчы, зніклі б і ўсе цяперашнія праблемы з бухгалтарскім улікам, мытнымі падаткамі, з'явілася б больш парадку пры размеркаванні валюты па льготнаму курсу...

Другі варыянт — перайсці ўсім на адзіны курс. Так, адразу ж падымуцца ў цане энерганосьбіты і адбудзецца пэўны ўсплеск інфляцыі. Аднак мяркую, што гэты ўсплеск будзе не такі ўжо вялікі. Па маіх разліках, адначасовая інфляцыя, па ўсяму валавому прадукту, складзе 5 працэнтаў. І праз 2-3 месяцы, калі новая цана энерганосьбітаў увойдзе ў кошт усіх тавараў, — дабавіцца яшчэ каля 10 працэнтаў.

Думаю, што гэта два асноўныя, найбольш прымальныя варыянты, хоць у кожнага з іх, акрамя плюсаў, ёсць і мінусы. Але незалежна ад таго, які варыянт стаў бы дзейнічаць, галоўнае ў далейшым — дабіцца стабільнасці таго курса, што ўстановіцца. Не праблема перайсці на адзіны курс — праблема ўтрымаць яго. Нікому ж не будзе падабацца, калі курс будзе абвальвацца з такой хуткасцю, як было ў нас у 93-94 гг. і як зараз адбылося ў Расіі, — у выніку абясцэньваюцца зберажэнні, страчвае ўсякі сэнс любая работа ў рэальным сектары эканомікі... І ў дадзеным выпадку (маецца на ўвазе ўтрыманне курсу) за гэта павінны адказваць не толькі тыя, хто праводзіць у краіне грашовую палітыку, але і тыя, хто рэгулюе эканамічныя працэсы, знешнегандлёвую дзейнасць. Ад чаго залежыць той жа свабодны рынкавы валютны курс? У першую чаргу ад балансу паміж экспартам і імпартам (большы экспарт — больш устойлівы курс), ад мытнай палітыкі. Дзяржава павінна абмежаваць закупку імпартных тавараў, без якіх мы можам абысціся і найперш абмежаваць імпартныя закупкі за кошт сродкаў бюджэту.

Што датычыць абавязковага продажу валюты, на які таксама наракаюць суб'екты, — дык такі парадак існуе ў большасці краін свету. Напрыклад, у Расіі трэба прадаваць 50 працэнтаў (а цяпер дыскутуюць нават адносна 75 працэнтаў валюты), ва Украіне — таксама 50, у Чылі, пра рэформы якой цяпер нярэдка ўзгадваюць, — усе 100 працэнтаў... Вядома, пры гэтым будзем мець на ўвазе, дамовімся, што суб'екты не павінны страчваць, як, напрыклад, страчваюць у нас у выніку значнага разрыву паміж афіцыйным і рынкавым курсамі.

**— Такі значны разрыў з'явіўся акурат пасля таго, як Нацбанк сышоў са знешняга валютнага рынку...**

— Думаю, што ў невялікай дзяржаве ўсе валютныя аперацыі павінны канцэнтравацца ў адным месцы, г. зн. на валютнай біржы, і якраз менавіта ўнутры краіны. Пры гэтым у іх могуць удзельнічаць і нерэзідэнты. Вядома, для апошніх павінны быць вызначаны пэўныя абмежаванні. Інакш пры свабодным курсаўтварэнні нерэзідэнты ў нашай невялікай дзяржаве змаглі б зрабіць усё, што пажадалі б, г. зн. абваліць курс. Ёсць класічныя прыклады гэтага. Напрыклад, Сорас змог расхістаць нават англійскі фунт стэрлінгаў. Ну, а для беларускага рубля не трэба і Сораса.

На жаль, мы маем зусім мізэрныя золатавалютныя рэзервы, каб рубель набыў добрую ўстойлівасць пры поўнай канверсоўнасці. Расія, якая мела куды большыя рэзервы, і тая змагла перайсці да каціровак на знешніх рынках толькі недзе за 2 месяцы да цяперашняга фінансавага крызісу.

У сувязі з гэтым хачу таксама зазначыць: для Беларусі, як для невялікай дзяржавы, быў бы вельмі аптымальны варыянт так званага валютнага камітэта, пра што мне ўжо даводзілася гаварыць. Што азначае гэты камітэт (дарэчы, яго яшчэ любяць называць аргенцінскім варыянтам стабілізацыі курсу)? Ён азначае, што валютныя рэзервы дзяржавы павінны цалкам пакрываць яе грашовую базу — падкрэслю, грашовую базу, а не грашовую масу (у грашовую базу ўваходзяць найболей высокаліквідныя грошы — наяўныя грошы і грошы на карэспандэнцкіх рахунках банкаў). Але пакуль што ў Нацыянальнага банка няма такіх рэзерваў. І ў сувязі з гэтым варта было б як мінімум 10 працэнтаў валюты, якая паступае ад абавязковага продажу суб'ектамі, накіроўваць на папаўненне валютных рэзерваў НБ — пакуль не набяром іх у патрэбным аб'ёме. Аднак атрымліваецца якраз наадварот: калі ў валютных рэзервах НБ нешта і з'явіцца, гэтыя сродкі адразу ж забіраюцца на пагашэнне запазычанасці па энерганосьбітах. Няма магчымасці стварыць належныя рэзервы, хоць Нацбанк мэтанакіравана і імкнецца гэта зрабіць. Трэба было б хоць трохі зацягнуць паясы.

**— У нас існуе таксама праблема свабоднага доступу ўсіх жадаючых на валютную біржу, на якой вельмі жорстка адсейваюць, скажам так, непатрэбныя заяўкі?**

— Гэта праблема сама па сабе вырашыцца, калі ўся валюта будзе прадавацца толькі на біржы, чаго і трэба дабівацца з усёй настойлівасцю.

**— Няйначай, з гэтай мэтай апошнім часам узмацнілі і барацьбу супраць так званых фірмаў-аднадзёнак.**

— Барацьбу з незаконнымі аперацыямі трэба весці пастаянна і з усёй паслядоўнасцю. Але, па-мойму, яшчэ класікі марксізму-ленінізму сказалі, што трэба выкараняць не столькі крымінальную з'яву, колькі эканамічную прычыну гэтай з'явы. Калі, напрыклад, у трактарнага завода будзе легальная магчымасць прадаць рэшту заробленай валюты, скажам, камбікормаваму заводу па свабоднаму курсу на той жа валютнай біржы, калі трактарны завод дзеля гэтага не вымушаны будзе звяртацца па адпаведныя паслугі да нейкіх фірмаў, то ўсё гэта трэба толькі вітаць. Значыць, і трэба даць яму такую магчымасць, і няхай ён прадае таму, хто дасць болей. Тады яму не спатрэбяцца і тыя ж фірмы-аднадзёнкі, адпадзе і неабходнасць барацьбы з імі. Між іншым, фірмы робяць значна «даражэйшым» курс, закладваючы ў яго і свае працэнты па паслугах... У прынцыпе трактарны завод і сёння можа свабодна прадаць рэшту сваёй валюты, але пакупнік у яго можа быць толькі адзін — Нацыянальны банк. У далейшым, калі нават па-ранейшаму застанецца цяперашні парадак распараджэння валютнай выручкай, г. зн. нізкі афіцыйны курс на энерганосьбіты, трэба разам з гэтым укараняць сістэму электронных лотавых таргоў, пры якіх здзелкі паміж суб'ектамі ажыццяўляліся б менавіта па свабоднаму дагаворнаму курсу. Напрамую. Адзіная ўмова: здзелкі павінны рэгістравацца на біржы.

**— Міхаіл Міхайлавіч, што вы можаце сказаць наконт эмісіі Нацыянальнага банка, ці не перавышала яна прымальныя рамкі?**

— Мне здаецца, сёлета эмісія праводзілася выключна ў рамках рашэнняў, якія прымала вышэйшае кіраўніцтва рэспублікі. Увогуле, сам Нацбанк эмісійных ліній па сваёй ініцыятыве не адкрывае. Гэта па-першае. А па-другое, як мне ўяўляецца, сёлетняя эмісія, з улікам 11-працэнтнага росту валавога ўнутранага прадукту, не намнога вышэйшая за мінулагоднюю. Больш таго, Нацбанку ўдалося пераарыентаваць уласныя рэсурсы банкаўскай сістэмы на мэтавыя праграмы. Напрыклад, уборачная сёлета абышлася амаль без мэтавых крэдытаў НБ — самі банкі накіравалі свае рэсурсы на крэдытаванне гаспадарак пад закупкі збожжа і іншай прадукцыі.

**— Аднак не без уздзеяння самога ж Нацбанка?**

— Калі не аказваць уздзеяння на рух капіталаў, то ён у немалой колькасці накіруецца ў сферу цэнавых спекуляцый, а не ў рэальны сектар, што паказвае прыклад той жа Расіі. Няма ніводнай дзяржавы, якая не ўплывала б на патокі капіталаў з улікам сваіх інтарэсаў, нацыянальных прыярытэтаў. Іншая справа, з дапамогай якіх інструментаў гэта рабіць — голага адміністравання або пэўных эканамічных стымулаў...

**— Якіх змяненняў у валютнай палітыцы Нацбанка можна чакаць у далейшым?**

— Увогуле валютная палітыка звычайна вызначаецца не Нацбанкам і не ўрадам, а, як правіла (і гэта практыка многіх іншых дзяржаў), законам аб валютным рэгуляванні і валютным кантролі. Нам трэба таксама як мага хутчэй вызначацца, якую палітыку мы збіраемся праводзіць і які кантроль нам неабходны, а для гэтага прыняць адпаведны Закон. А потым — ужо справа НБ і ўрада працаваць у вызначаных рамках.

Што ж датычыць грашова-крэдытнай палітыкі, прынцыповых змяненняў у ёй у далейшым не бачу. Вядома, апошнім часам змянілася сітуацыя, на што паўплываў расійскі фінансавы крызіс — значыць, будуць унесены ў гэту палітыку пэўныя карэктывы. І — толькі. Стратэгія ж застаецца ранейшай. Я яе сфармуляваў бы наступным чынам: не жорсткая і не мяккая грашова-крэдытная палітыка, а такая палітыка, якая стымулюе эфектыўную вытворчасць.

**Гутарыў Іван БАРАНОЎСКІ.**

# ГАРЭЛКА НЕ ПАДАРАЖЭЛА. ПАКУЛЬ

**Апошнія чуткі пра падаражанне датычыліся гарэлкі. Прычым некаторыя сродкі масавай інфармацыі ўжо паспяшаліся запэўніць людзей, што з учарашняга дня родная алкагольная прадукцыя выстаўлена з новымі цэннікамі.**

Як аказалася, гэта проста «вутка» — цэны засталіся ранейшымі, хоць і лепшыя ўзоры айчынных гарэлак, якія выпускаюць Мінскі вінна-гарэлачны і Брэсцкі лікёра-гарэлачныя заводы, з паліц айчынных магазінаў пачалі знікаць. Народ ужо ведае толк у спіртных напоях, ды і чуткі робяць сваю справу — чалавек запасаецца бутэлькай-другой белай, чакаючы падаражання.

Ці будзе яно на самай справе? Карэспандэнт «Звязды» паспрабаваў гэтае пытанне ўчора высветліць. У Камітэце цэн Міністэрства гандлю журналісту ветліва адказалі, што ніякіх афіцыйных дакументаў наконт павышэння цэн на белую гарэлку няма. А значыць не трэба верыць, што «адна бабка сказала».

Работнікі канцэрна «Белхарчпрам» таксама абверглі інфармацыю, што адбылося павышэнне цэн на ўказаную прадукцыю. Хоць на думку аднаго з супрацоўнікаў канцэрна, падаражанне гарэлкі магчыма, бо значна выраслі цэны на пшаніцу новага ўраджаю, а таму многія віды гарэлак сталі маларэнтабельнымі ці іх выпуск наогул мяжуе са стратнасцю. Такой жа думкі прытрымліваюцца і на мінскім ВГЗ «Крышталь». Так што, хочам мы гэтага ці не, але ж скачок цэн, хоць і невялікі, гэта справа бліжэйшай будучыні.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

***КРЫМІНАЛ***

## БУДЗЕ ЎРОК

**Супрацоўнікі Воранаўскага райаддзела ўнутраных спраў на шашы Гродна — Воранава затрымалі аўтобус, які належаў каўнаскаму закрытаму акцыянернаму таварыству «Лiняцера». У ім знаходзілася некалькі грамадзян Літвы.**

Пры даглядзе ў салоне было выяўлена 68.240 пар жаночых калготак на суму больш як 1 млрд. 700 мільёнаў рублёў. У ходзе праверкі было высветлена, што гэты груз быў увезены на тэрыторыю нашай краіны без унясення ў мытную дэкларацыю і без уплаты мытных пошлінаў. Рашэннем Воранаўскага народнага суда кантрабандны груз канфіскаваны на карысць беларускай дзяржавы.

**Антон ЗАПОЛЬСКІ.**

## ШЛАГБАУМ ДЛЯ ПЕРАБЕЖЧЫКАЎ

**19 афганцаў спрабавалі перавезці на прыватных легкавушках у Беларусь некалькі жыхароў Браншчыны позняй ноччу.**

Аднак на кантрольна-прапускным пункце «Селішча», што ў Добрушскім раёне, яны былі затрыманы гомельскай міліцыяй і дастаўлены ў пагранічны атрад. Пасля высвятлення некаторых абставінаў перабежчыкі ў заходнія краіны былі выдвараны за межы нашай рэспублікі.

Між іншым, тое ж напаткала і вялікую групу бангладэшцаў, якія спрабавалі ў верасні пераправіцца водным шляхам (праз Дняпро) у раёне Лоева ва Украіну. Дапамаглі ім у гэтым мясцовыя жыхары.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# СМЕХАТЭРАПІЯ

## АНЕКДОТ

*Іншапланецянін прыбыў на Зямлю і адправіўся на завод, каб з простымі людзьмі пасябраваць. Усе якраз сядзелі ля прахадной і выпівалі з нагоды зарплаты.*

*— Я з Сірыуса! — заявіў іншапланецянін, жадаючы звярнуць на сябе ўвагу.*

*— Вася, налі Сірыусу! — пачулася ў адказ.*

*Выпілі. Закусілі. Іншапланецянін вырашыў удакладніць сітуацыю:*

*— Ды не, вы не зразумелі. Я з Сірыуса!*

*— Вася, налі Сірыусу! — зноў пачулася ў адказ.*

*Выпілі. Закусілі. Іншапланецянін захмялеў і, ледзь варушачы языком, прамовіў:*

*— Не-е, вы не з-зразумелі... Я іншапланецянін...*

*— Так, Вася, Сірыусу больш не наліваць.*

## УСМЕШКА МАСТАКА



# І скалы плачуць

### ГУМАРЭСКА

ЧУБІКІ вазілі сена. Прывезлі два вазы, трэба было забраць яшчэ тры капы — і карова была б з харчам, але тут гаспадар кінуў лейцы на плот, выцер шапкай успацелы твар і сказаў:

— Соня, налі чарку.

Жонка ведала, што калі муж каўтане хоць глыток, то будзе піць тыдзень.

— Паўлуша, давай прывязём астатняе і вып'еш, а то дождж можа...

— Налі і прывязём.

Але жыццё навучыла Соню. Нальеш — на воз не пасадзіш.

— Не трэба табе, то не трэба і мне! — кінула гаспадыня, падціснула вусны і пайшла ў хату. Гаспадар за ёю.

— Соня, дзе гарэлка?

— Ты ж выжлукціў. Няма, — змахлявала кабета. Пяць бутэлек яна прыхавала на чорны дзень у хляве, пад жолабам.

— Ой, пашкадуеш, ой набядуешся, — гаварыў гаспадар, заглядаючы ва ўсе закуткі. Гарэлкі не было.

— Апошні раз прашу. Налі.

— Скарэй у мяне рукі адсохнуць, чым я наліваць буду, — запэўніла жанчына. Яна была мажнай, а муж дробны. І стаяў Павел перад Соняй, як голуб перад курыцай.

— Добра, — сказаў гаспадар і грукнуў дзвярыма.

Невядома, што рабіў бы далей Чубік, калі б не ўбачыў Чэся Хмыза, які ішоў выганам, паўз яго хату.

Чэсь быў не дурны і не гультай, але апоек. Чэсь піў гарэлку і любіў паўтараць прымаўку «П'яны праспіцца, а дурны ніколі».

— Што, дзядзька, здарылася? Чаму сумны? — спытаў Хмыз і паставіў кошык з грыбамі паміж гумовік.

— Надрываешся, а як выпіць — дык не, — паскардзіўся Чубік. Пачуўшы гэта, хлопец адразу ж ажыў.

— Дык дома выпілі б, Антонавіч.

— Ты ж ведаеш маю жонку. Скала, — уздыхнуў Антонавіч.

— І скалы плачуць. Калі я служыў на Каўказе — скала базальт. А прыгледзішся — трэшчынкі слязяцца...

— То базальт, а то мая баба, — зноў уздыхнуў Чубік.

— Дзядзька, хочаш выпіць? — Чэсь узяў Антонавіча за рукаво.

— А хто не хоча?

У голасе Чубіка з'явілася надзея, а ў вачах — жыццё.

— Давайце шапку, — сказаў хлопец і сарваў з галавы Антонавіча брыль. Чэсь сагнуўся над кашом і пачаў перабіраць грыбы. Адабраў з дзесятак белых сыраежак і падаў шапку Чубіку.

— Зварыце, з'ешце і ў пасцель.

— А што далей? — здзівіўся Чубік, недаверліва пазіраючы на шапку з грыбамі.

— А далей, далей скала плакаць будзе.

— А гарэлка?

— Ну, ты, дзядзька, — пакруціў галавой Чэсь, — ідзі і рабі, што табе сказаў разумны чалавек. А гарэлка будзе.

* * *

Калі гаспадар вярнуўся ў хату, жонка спытала:

— То мо, паедзем?

— Я сваё ўжо ад'ездзіў, — прабурчэў муж і высыпаў грыбы ў каструлю, заліў вадой і паставіў на пліту варыцца. Соня насцярожана назірала за мужам.

— Можа, паміраць сабраўся?

Гаспадар маўчаў, а гэта ўжо растрывожыла кабету.

— Калі паміраць, то еў бы сырымі, чаго газ траціць.

— Паглядзіш, нагаруешся, — гаварыў муж, памешваючы грыбы.

— Работнічак, людзей не смяшыў бы, — нервова засмяялася гаспадыня.

Чубік лыжкай вылавіў грыбы ў міску, сеў за стол і стаў есці. Жонка параіла здзекліва:

— Пасаліў бы, лягчэй глыталася б.

Гаспадар жаваў моўчкі, пазіраў у цёмны кут пад абраз і здавалася быў ужо дзесьці далёка.

— Што надумаў, прыедуць дзеці, усё раскажу, — гаварыла Соня, стоячы над мужам. У голасе жанчыны з'явіліся плаксівыя ноткі. Чубік дажаваў грыб, пасядзеў, абхапіўшы галаву рукамі, за сталом, застагнаў і, трымаючыся за сцяну, падаўся да ложка. Скурчыўся і адвярнуўся да сцяны. Соня загаласіла і хацела бегчы да суседзяў, як у хату ўвайшоў Хмыз.

— Цётка, што здарылася?

— Чэсік, вунь зусім звар'яцеў, атруціўся грыбамі, — смаркаючыся ў кулак, гаспадыня павяла хлопца ў спальню, — а конь стаіць, сена не прывезена.

— Цётка, сена прывязём, я паеду.

Чэсь нахіліўся над гаспадаром.

— А вось дзядзьку трэба ратаваць. Спірт ёсць?

Хмыз паклаў руку на лоб гаспадара.

— Халодны. Спірту ці гарэлкі скарэй, цётка. Нейтралізаваць атруту трэба.

Кабета кінулася ў хлеў.

Калі гарэлка забулькала ў шклянцы, Чубік варухнуў галавой і выцягнуў ногі.

— Антонавіч, прамый кішкі, — сказаў Чэсь і працягнуў шклянку. Гаспадар вяла сеў, выпіў і расплюшчыў вочы. Абвёў поглядам пакой і ўпаў на падушку. Жонка заклапочана глядзела на яго.

— Пранясе, — заявіў Чэсь і наліў паўшклянкі для сябе. — Супраць гарэлкі ніякая атрута не ўстаіць. За тваё здароўе, Антонавіч!

— Чэсік, можа за сенам з'ездзім? — спытала Соня, са шкадаваннем назіраючы, як хлопец п'е гарэлку. — Можа прывязём?

— Антонавіч, вам лепш?

Чубік кіўнуў галавой і павёў вокам на бутэльку.

— Во, бачыце, а то скала. Вам, дзядзька, больш нельга. Прывязём сена, тады паўторым, — сказаў Хмыз і дапіў гарэлку.

На кухні прыкусіў астаткамі грыбоў, а здзіўленай гаспадыні растлумачыў:

— Пад гарэлку і паганка не страшная.

Потым Чэсь сядзеў з цёткай Соняй на возе з сенам і філасофстваваў:

— Дзядзьку ўжо добра, вам — таксама, ды і мне някепска.

Конь парыпваў збруяй, гудзеў авадзень і здавалася, што сапраўды ўсім добра.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*СУБОТНІЯ ГУТАРКІ ВЕРАНІКІ КУДРАЎЦАВАЙ*

# ШЛЯХ РАСІІ ДА ЗАЛАТОГА ВЕКУ ПАЧЫНАЕЦЦА СЁЛЕТНЯЙ ВОСЕННЮ

**Застаўся ў мінулым няпросты верасень. Але, згодна з прадказаннямі, самыя цяжкія часы ў жыцці Расіі яшчэ наперадзе. Не абмінуць праблемы суседняй дзяржавы і Беларусь. З падрабязнасцямі пра падзеі «гарачага» кастрычніка і нялёгкага лістапада астролаг Вераніка КУДРАЎЦАВА.**

— Асноўная тэма наступнага месяца — аслабленне прэзідэнцкай улады ў Расіі. Усё паказвае на тое, што будзе замах на прэзідэнта. Законным шляхам, ці шляхам змовы, але праціўнікі паспрабуюць адхіліць Барыса Ельцына ад улады. Тым больш, калі прэзідэнт слабы, а ў кастрычніку магчыма пагаршэнне яго здароўя. Другі несумненны козыр супраць прэзідэнта — вайна ў Чачні, віну за якую ўскладаюць на сённяшняга кіраўніка дзяржавы. А ў другой палове кастрычніка, як здзек, верагоднае ўзнікненне ачага ваенных дзеянняў у Расіі. Гэтымі двума аргументамі і будуць апераваць праціўнікі Ельцына.

**— А сам прэзідэнт Расіі не падасць у адстаўку?**

— Наўрад ці. Пакуль ён нармальна сябе адчувае, ён будзе супраціўляцца. Увогуле, як сыдзе Ельцын, — пытанне адкрытае. Нават калі б такое пытанне ўзнікла раней, да палітычнага крызісу, і тады адказаць на яго не было б магчымасці. У Нострадамуса ёсць радкі, прысвечаныя Ельцыну. Сэнс іх: кіраўнік дзяржавы сыдзе па лабірынту. Што азначае гэтая фраза? Чакае Ельцына імпічмент або ён сыдзе сам, выбраўшы нейкі нечаканы шлях? Сёння адказу няма.

Увогуле ідэя змовы лунае ў паветры. Апошнім часам нават неастролагі праз нейкія знакі, паведамленні ў галіне культуры, свецкіх навін, з рэкламы могуць заўважыць контуры маючых адбыцца падзей. Напрыклад, перад прызначэннем Кірыенкі прэм'ер-міністрам па тэлебачанні ішоў ролік «Прэм'ер СВ». Нагадаю: нядаўняга кіраўніка расійскага ўрада звалі Сяргей Уладзіленавіч. Дарэчы, гэты факт быў заўважаны не мною.

Як я казала раней, Барысу Ельцыну прадказваюць сямігадовы тэрмін праўлення, аналагічна тэрміну кіравання Барыса Гадунова. Сямігоддзе ўжо на зыходзе. І, як пацвярджэнне таму, ужо падводзяцца нейкія вынікі кіравання Ельцына, няхай сабе пакуль у галіне культуры. Не так даўно ў Маскве паставілі оперу «Барыс Гадуноў». У тэлевізійным каментарыі гэтай пастаноўкі акцэнт рабіўся на ролю Барыса Гадунова ў гісторыі Расіі: ён быў рэфарматарам, сапраўды народным царом, выбраным народам. Гэты момант вельмі нагадваў ацэнку дзейнасці Барыса Ельцына.

Нельга пакінуць без увагі і такі факт. У нядаўні свой прыезд у Расію Растраповіч дырыжыраваў з японскім калегам «Рэквіем». На канцэрце прысутнічалі былы прэм'ер-міністр Японіі і прэзідэнт Расіі. Ельцын пакінуў залу, не дачакаўшыся другога акта. А згодна са сцэнарыем далей паўстаюць з мёртвых салдаты, што загінулі на вайне. Апошні акорд — заклік да людскога сумлення, разважлівасці. Хіба не цікавы той факт, што Ельцын прыйшоў на канцэрт з былым прэм'ерам, няхай сабе і іншай краіны, і не даслухаў канцэрт, калі размова пайшла пра лёсы салдат? Такія цікавыя гістарычныя перакрыжаванні, фарміраванне ідэй, што лунаюць у паветры, ёсць пацвярджэнне аналогій з часам Барыса Гадунова — смутным часам.

**— І ў гэты перыяд з'явіцца Лжэ-дзмітрый?**

— Ужо ў кастрычніку верагодна яго праяўленне. Прычым прыход яго да расійскага прастола можа быць пад розным выглядам. Не абавязкова будзе звяржэнне Ельцына. Хоць ідэя змовы рэальная, і словы Чарнамырдзіна пра магчымую змову — гэта не словы пакрыўджанага чалавека. Ёсць для такіх заяў падставы. А ў Чарнамырдзіна місія ў кастрычніку — апярэдзіць час самазванцаў. І з'яўленне ля Ельцына прэс-сакратара Якушкіна, нашчадка дзекабрыста, не выпадковае. Яму наканавана разбудзіць Ельцына, які, падобна спячаму чалавеку, напэўна, не адчувае пагрозы для сябе. Але ці паспее з-за нечаканасці падзей данесці неабходнае кіраўніку дзяржавы сённяшні прэс-сакратар, сказаць немагчыма.

Нагадаю, што ў фінансава-эканамічны і палітычны крызіс Расіі будуць уцягнуты ўсе дзяржавы СНД. І вельмі верагодна, што прэтэндаваць на расійскі прастол стане грамадзянін адной з краін СНД. Трэба звярнуць увагу на падзеі, якія адбываюцца ў саюзных дзяржавах, якія прапановы там выносяцца. Не выключана, што мы станем сведкамі паходу на Маскву Лжэ-дзмітрыя. Верагодна, што прымяненне ўзброенай сілы, кровапраліцце, што рэальна ў сярэдзіне кастрычніка, будзе звязана з асобай галоўнага самазванца. Хаця ваенныя дзеянні магчымыя не толькі ў сталіцы, але і ў іншых пунктах Расіі. Дагестан? Чачня? Іншая ўскраіна? Час пакажа.

**— У любым выпадку гэта будзе праяўленне нездаволенасці народа той сітуацыяй, якая склалася ў краіне?**

— Так, вы ж ведаеце, што расійскія прафсаюзы прызначылі выступленне на 7 кастрычніка. Гэта — чорная дата для Расіі, але кроў не пральецца. Тыднем пазней жа могуць быць сапраўдныя баі. Змагацца будуць і розныя погляды, палітычныя плыні. Я казала раней, што нейкім абсурдным чынам гэтай восенню ў Расіі адбудзецца перакрыжаванне ліній часоў Барыса Гадунова і марксісцкіх ідэй. Сёння падзеі ў гэтай краіне развіваюцца па ўжо раней напісанаму гістарычнаму сцэнарыю. Прасоўваннем сваіх інтарэсаў займаюцца камуністы. Не выпадкова ўзнік канфлікт з-за жадання апошніх узначаліць народныя масы падчас прызначаных на пачатак кастрычніка выступленняў. Фактычна яны прысвойваюць чужую ідэю.

**— Калі ж розныя сілы разбяруцца паміж сабой?**

— Не варта забывацца пра Мініна і Пажарскага. Лужкоў і Лебедзь нагадваюць гэтых гістарычных персанажаў. Апошні плануе ўдзельнічаць у прафсаюзных выступленнях, а яго гістарычны аналаг быў ваенным чалавекам і ўзначаліў народных апалчэнцаў. Прыход яго ў Маскву і яднанне сіл апалчэнцаў і паўстанцаў дало неабходны вынік: ачышчэнне ад непатрэбных элементаў ва ўрадзе. Так што ў Лебедзя вельмі важная роля. Мінін, гаворачы сённяшняй тэрміналогіяй, быў мэрам Ніжняга Ноўгарада. Ён быў моцным гаспадарнікам, сабраў добрую казну. Так што Лужкоў можа прымерыць на сябе такую ролю. Але гэтыя падзеі праявяцца пазней, дзесьці пасля лістапада. Спачатку павінен з'явіцца Лжэ-дзмітрый.

**— Наўрад ці ў такой напаленай палітычнай сітуацыі трэба чакаць змяненняў да лепшага ў эканамічным плане?**

— Кастрычнік і лістапад — вельмі цяжкія месяцы. І трэба быць да гэтага гатовымі. Меры, якія будуць прымацца ўрадам Расіі для нармалізацыі абстаноўкі, непасрэдным чынам паўплываюць і на становішча ў Беларусі. У прыватнасці, ужо ў пачатку кастрычніка пагаршэнне можа быць істотным, і як вынік — значны рост курса долара. У Беларусі з сярэдзіны кастрычніка магчымае ўвядзенне самых жорсткіх мераў у плане рэгулявання таварнага рынку, кажучы прасцей, нарміраванне тавараў. Магчыма цэнтралізацыя ўлады, будуць спробы ўвоorду абмежаванняў на інфармацыйную дзейнасць. У кастрычніку-лістападзе ў Беларусі, як і ў Расіі, верагоднае выкрыццё людзей, якія вінаватыя перад дзяржавай.

**— Калі нам давядзецца перажыць яшчэ самае горшае, то самастойна наўрад ці можна з гэтымі бедамі справіцца. Захад нам дапаможа?**

— У снежні ёсць паказчыкі на паляпшэнне становішча. Думаю, што дапамога міжнародных фінансавых арганізацый будзе. Ды і як замежныя краіны пакінуць Расію сам-насам з яе бедамі? Яны ж таксама маюць тут свае інтарэсы. Расія — не настолькі маленькая дзяржава, каб на яе ўнутраныя справы можна было заплюшчыць вочы. Паўтаруся, што ўжо напрыканцы года дыхаць нам стане лягчэй.

**— Вераніка, з пункту гледжання зорак, ці не ёсць гэтая навала — расплата за тую ж рэвалюцыю, расправу над манаршай сям'ёй?**

— Хутчэй за ўсё, гэта — час ачышчэння. Не выпадкова ж яшчэ Васіль Немчын, наш суайчыннік і знакаміты прарок, прадказваў, што за краінай Вадалея — Расіяй, Беларуссю і Украінай — вялікая будучыня. І ўжо ў пачатку XXI стагоддзя гэтыя дзяржавы чакае росквіт. Звернемся зноў да гісторыі. Праўленне Барыса Гадунова папярэднічала ўступленню на прастол царскай дынастыі Раманавых, пры якой Расія працвітала. Згодна з гэтай аналогіяй, пасля Барыса Ельцына прыйдзе чалавек з царскай адмецінай, які выведзе краіну на перспектыўны шлях развіцця. Каметы сведчаць, што адбываецца аднаўленне мінулых традыцый. Наўрад ці можна прагназіраваць прыход камуністаў да ўлады да 2000 года. Там зусім іншыя тэндэнцыі. У XXI стагоддзе Расія пойдзе з чалавекам, які будзе сапраўдным рэфарматарам, здольным несці адказнасць за рэформы і дбаць пра дабрабыт дзяржавы і народа. А сёння адбываецца ачышчэнне ад усяго непатрэбнага ў наступным тысячагоддзі.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

*36,6°*

## СКРУЦІЎ АСТЭАХАНДРОЗ — НЕ ВЕШАЙ НОС

Ад астэахандрозу пакутуе ўжо кожны трэці жыхар Расіі. Хачу падзяліцца сваім вопытам лячэння гэтай неадчэпнай хваробы. Асабліва хутка мне дапамаглі 5 практыкаванняў на расцягванне пазваночніка, рэкамендаваных вядомым доктарам П. Брэгам. Гэтыя простыя і даступныя кожнаму практыкаванні за кошт сціскання і расцягвання дазваляюць аднавіць пругкасць сінавіяльнай вадкасці.

**Практыкаванне № 1**. Легчы на падлогу тварам уніз, прыўзняцца, абапіраючыся на далоні і пальцы ног (калені і локці прамыя), галава апушчана, спіну выгнуць дугой. Потым таз апусціць, галаву прыўзняць, і так некалькі разоў у павольным тэмпе.

**Практыкаванне № 2.** Зыходнае становішча такое ж, як у практыкаванні № 1. Выгнуўшы спіну і апусціўшы галаву, павярнуць таз налева, апускаючы левы бок як мага ніжэй, а потым направа, рухі павольныя, думайце пра расцягванне пазваночніка.

**Практыкаванне № 3**. Сесці на падлогу, абапіраючыся на расстаўленыя рукі (прамыя), ногі сагнуты. Падняць таз да гарызантальнага становішча пазваночніка, потым яго апусціць, і так некалькі разоў у хуткім тэмпе.

**Практыкаванне № 4.** Легчы на спіну, ногі выцягнуты, рукі ў бакі, сагнуць калені, абхапіць іх рукамі і падцягнуць да грудзей. Потым адштурхнуць калені і бёдры ад грудзей, не апускаючы рук, і адначасова ўзняць галаву і паспрабаваць дакрануцца падбародкам да каленяў, затрымацца на 5 сек., паўтарыць.

**Практыкаванне № 5.** Гэтае практыкаванне — адно з самых важных. Зыходнае становішча тое ж, што і ў практыкаванні № 1. Легчы на падлогу тварам уніз, абапіраючыся на прамыя рукі і ногі, выгнуўшы спіну дугой і апусціўшы галаву, абысці пакой, колькі зможаце разоў.

Выкананне практыкаванняў строга індывідуальнае, спачатку колькасць паўтарэнняў не больш як 2—5 разоў, а потым можна давесці да 10 і больш. Ужо праз месяц штодзённых заняткаў я адчуў прыкметнае паляпшэнне, цяпер раблю іх праз дзень—два пастаянна. Да гэтых практыкаванняў дабаўляю яшчэ агульнавядомыя (віс на перакладзіне, нахілы, павароты, кручэнне тулава, для ўмацавання мышцаў жывата, самамасаж).

**Іван ІГНАТАЧКІН.**

*«АиФ-Здоровье».*

Прыскакаў Эдзік у Мінск у нейкім велізарным валёнку на адной назе. Праўда, залячылі пасля, зажыло. І вось калі ўручалі прэміі Ленінскага камсамола, Ханку не далі. «Чаму?» — пытаемся. «Стары», — адказваюць. Дык а на каго ж ён тады маладосць паклаў?



# «Нават пасля таго, як Эдзік па дарозе на БАМ уступіў нагой у кіпячы чайнік, яму не далі прэмію Ленінскага камсамола»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

**— Пакрыўдзіліся?**

— Ды ў мяне тады ад такіх слоў аж дух заняло. Ах ты, думаю, альфонс гэтакі. Я табе пакажу «малалетка». Я табе дам «бай-бай». І вырашыла для сябе: нікуды ты ад мяне, даражэнькі, не падзенешся. Чаго б мне гэтага ні каштавала.

**— Бачу, што не падзеўся...**

— У той час, пакуль мы два гады былі ў сварцы, я перыядычна прыязджала да яго бацькоў і брала для сябе кнігі — у іх была вельмі багатая бібліятэка. Эдзік туды амаль не наведваўся, і я яго практычна не бачыла. Адным словам, не буду цягнуць гуму: 29 студзеня 1962 года Эдзік запрасіў мяне на дзень нараджэння свайго брата. Я, вядомая рэч, крыху паўпіралася. «Не ведаю, што і рабіць, кажу. Мабыць, і не згадзілася б, але з-за павагі да тваёй маці, я ў яе нярэдка ж кнігі брала, прыйду...» 1 мая гэтага ж года ў нас адбылося вяселле.

**— Значыцца, першае і адзінае каханне на ўсё жыццё?**

— Чаму ж, быў у мяне невялічкі раман яшчэ з адным хлопцам у той двухгадовы адрэзак, калі мы з Эдзікам былі «ў разводзе». Я жыла ў ваенным гарадку пад Брэстам і пазнаёмілася з цудоўным хлопцам Генам. Прыгожы, статны... Мара ўсіх дзяўчат. Але занадта добры і сціплы. І Ханок перасіліў яго. Узяў мяне, што называецца, нахрапам, мне з ім было цікавей.

**— Гену не шкада?**

— Шкада, вядома, але што ж зробіш. Лёс.



**— Я так разумею, што Эдуард Сямёнавіч падчас «разводу» таксама «не грушы абіваў». «Налева», відаць, крыху заносіла...**

— Я не думаю. Эдзік тады падзарабляў у мінскіх рэстаранах, іграў там, і прысутныя дзяўчаты глядзелі на яго як на нейкі абслуговы персанал. Як на афіцыянта, якому можна даць «на чай», і ён будзе іх забаўляць. Гэта ж вельмі непрыемна.

**— Вам таксама, напэўна, непрыемна было думаць, што чалавек, да якога вы ставіцеся нераўнадушна, магчыма, недзе забаўляецца з другой? І ўвогуле, Ляля Іванаўна, вы раўнівы чалавек?**

— Я? Ні кроплі. Гэта Эдзік мяне нават да слупа мог прыраўнаваць. Аднойчы ў электрычцы я выйшла на некалькі хвілін, прабачце, у прыбіральню, дык пасля столькі папрокаў было, што Божа ж ты мой...

**— Без скандалаў, напэўна, не абыходзіцца ні ў адной сям'і.**

— Натуральна. Мы са сваім мужам нават разводзіліся...

**— ...Я не прэтэндую на тое, каб вы расказвалі гэту гісторыю.**

— Нічога сакрэтнага тут няма. У свой час Эдзік сустрэў на працы жанчыну, якая яму спадабалася. Тады яму падалося, што спадабалася. І вось я дома корпаюся з пялёнкамі і гаршкамі, а ён прыходзіць дадому пад лёгкім «шафэ» пасля добра праведзенага вечара. «О не, даражэнькі, так не пойдзе», — кажу яму. «Ты добрая, а яна такая вясёлая», — адказвае Эдзік. «Ну дык ідзі, весяліся». Карацей кажучы, павесяліліся яны, а праз месяц вяртаецца мой «блудны папугай» з апушчанай галавой. «Прабач, прабач...» Даравала. Дзеці ж усё ж такі агульныя...



**— Дарэчы, ваша сям'я — гэта...**

— Мы з Эдзікам, старэйшая дачка Руслана, сын Аляксей, малодшая — Святлана, унук і ўнучка. І заяц яшчэ...

**— У рэстаран з Эдуардам Сямёнавічам вы часта ходзіце?**

— Ведаеце, калі мы жылі ў Брэсце, то наведвалі рэстараны і кафэ кожны тыдзень. У Эдзіка была проста неверагодная цяга пасядзець дзе-небудзь, пагутарыць з людзьмі. А зараз... Справа ў тым, што зараз больш даводзіцца бываць на фуршэтах і прэзентацыях, чым у рэстаранах.

**— А ў мінулыя, як кажуць, застойныя часы?**

— Тады наогул не прынята было браць кудысьці на прыём сваіх жонак.

**— Ну а сам Эдуард Сямёнавіч, напэўна ж, быў тады ў фаворы. Ласкава прыняты партыйнымі босамі...**

— Я памятаю адну гісторыю, калі муж паехаў на БАМ. Ехалі у цягніку, Эдзік ляжаў на другой паліцы, а ўнізе сядзелі маладыя хлопцы. І трэба ж было такому здарыцца, што моладзь закіпяціла чайнік і кудысьці ці то сышла, ці то спаць палеглі, дакладна не ведаю. А муж у гэты час вырашыў злезці з паліцы. Ставіць нагу на падлогу, і яго вочы марудна паўзуць на лоб — нага трапляе акурат у кіпень. Апёк быў жудасны, прыскакаў Эдзік у Мінск у нейкім велізарным валёнку на адной назе. Праўда, залячылі пасля, зажыло. І вось калі ўручалі прэміі Ленінскага камсамола, Ханку не далі. «Чаму?» — пытаемся. «Стары», — адказваюць. Дык а на каго ж ён тады маладосць паклаў?

**— Бог з імі, з партыйцамі і камсамольцамі. Ляля Іванаўна, а колькі песень вам прысвяціў Эдуард Ханок?**

— Мы неяк ніколі не абмяркоўвалі гэта пытанне. Іншая справа, што ёсць песні, якія мне вельмі падабаюцца.

**— А «Малітва» дачкі Святланы падабаецца?**

— Ведаеце, аднойчы мы былі на адкрыцці санаторыя «Белая Русь», што на Чарнаморскім узбярэжжы. Там прысутнічала беларуская дэлегацыя, масквічы, іншыя госці — адным словам, элітны народ. І вось, калі Святлана закончыла пець сваю «Малітву», уся публіка паднялася і доўга-доўга апладзіравала. Свету літаральна закідалі кветкамі.

**— А хто ў вашай хаце «запявала»? Хто гаспадар?**

— Вядома ж — я. У мяне прысутнічае такі цвёрды ўнутраны стрыжань, і я нават лічу, што Бог мяне паслаў з місіяй «зрабіць» Эдуарда Ханка. Без мяне б ён загінуў. І таму я ўзяла на сябе ролю галавы сямейства. Зараз вось рамонтам кватэры займаюся.

**— Наколькі я зразумеў, сямейную «касу» вы таксама трымаеце?**

— Ну, вядома. Эдуард Сямёнавіч, праўда, здараецца не заўсёды пагаджаецца з расходным каштарысам, але пасля маіх пераканаўчых доказаў ён паходзіць-паходзіць і скажа: «А ўсё ж такі ты правільна зрабіла».

**— Ляля Іванаўна, сёння вы можаце назваць сваю сям'ю ідэальнай?**

— Такіх сем'яў, напэўна, і няма. А вось што жывём мы сёння ў згодзе і дабрабыце — гэта так.

**— Што ж, дзякую вам за такую шчырую гутарку, і — шчасця вашаму дому!**

**Алесь СІВЫ.**

*На здымках: Эдуард і Ляля Ханкі адразу пасля вяселля і сёння (з асабістага архіва сям'і Ханкоў).*

*МОДА*

# ВОСЕНЬ У АБЛІЧЧЫ... МАНАШКІ?

**Напрыканцы стагоддзя мода быццам бы апамяталася: хопіць неверагодных спалучэнняў і мешаніны стыляў. Кіч, гранж, унісекс — накірункі, з якімі сёння мода развіталася. А ў цэнтр сваёй увагі паставіла прастату, лаканічнасць і чысціню стылю, хаця б размова ішла пра сціплы вобраз манашкі ці шыкоўнай дамы пачатку стагоддзя.**



Сціпласць і раскоша — тыя дзве процілегласці, якія сёння пасняхова суседнічаюць у модзе. Уласна, гэта і не падаецца дзіўным, бо такія розныя накірункі не перакрыжоўваюцца, а існуюць аўтаномна. Прастата і чысціня ліній характэрныя для штодзённай вопраткі, а багаццем аздобы і тканін уражваюць вечаровыя строі. І хоць у большасці прадстаўніц чароўнай паловы апошнія ў гардэробе не з'явяцца, яны ўсё ж заслугоўваюць некалькі слоў.

Шыюцца вечаровыя сукенкі з шоўку, шыфону, цюлю, карункавага палатна, аксаміту. Усё гэта расшываецца бісерам, золатам, штучным жэмчугам, аздабляецца неверагоднай прыгажосці вышыўкамі, аплікацыямі, футрам норкі ці мангольскага ягняці. Модныя бледнатварыя інфантыльныя прыгажуні, якіх на пачатку гэтага стагоддзя зрабіў ідэалам французскі стыліст Поль Пуарэ. Ён адважыўся вызваліць жанчыну ад цесных карсетаў і апрануць яе ў сукенку з мяккіх тканін, што струменяцца ўздоўж цела. Сёння гэты вобраз робіць цэльным прычоска з мяккімі хвалямі, што спадаюць на лоб і скроні, макіяж, калі на выбеленым твары ззяюць вочы і палымнеюць вусны, і яшчэ галаўны ўбор, упрыгожаны шклярусам і пёрамі. Так што калі вы пастаянная наведвальніца свецкіх прыёмаў, рыхтуйце касцюм каралевы.

Праўда, калі вы не прыхільніца рэтра, на свецкіх раутах можна ашаламляць і ў сукенцы простага крою з бліскучай тканіны. Гэтыя строі не маюць груваскіх дэталяў, а выйграюць за кошт высокіх разрэзаў, глыбокага дэкальтэ ці асіметрычнай гарлавіны, што адначасова агаляе і плячо. Выкарыстоўваюцца таксама і празрыстыя тканіны з арыгінальным малюнкам, і сетка накшталт рыбацкай, толькі сплеценая з бліскучых нітак. Карпатлівая праца мадэльераў з нажніцамі над сваімі творамі, калі майстар выразае дзіркі, зоркі ды розныя шчыліны ў самых неверагодных месцах, пазбаўляе сціпласці такія простыя па сілуэту сукенкі.

Але досыць пра лёгкую вопратку. За акном тая пара года, што выклікае думкі пра адзенне іншага кшталту. Хаця заўзятыя модніцы могуць спалучыць у сваім касцюме сукенку ў бялізнавым стылі, што вельмі нагадвае камбінацыю, і цёплы махеравы світэр ці кашміравое паліто. Камфортнасць — галоўны крытэрый моды гэтага сезона. Таму шэрсць, махер, кашмір, фетр — фаварыты сярод тканін. Не пакінута без увагі і чорная скура, з якой шыюць не толькі доўгія плашчы і кароткія куртачкі, але і сукенкі на брэтэлях. Сарафан, няхай сабе і скураны, вядома, не сагрэе. Таму мадэльеры раяць надзяваць ці світэр з нарвежскім узорам нібыта з чужога пляча, ці цесную кофтачку, з якой, здаецца, вырасла яе ўладальніца. У світэрах з тоўстых нітак, дарэчы, рукаў часцей за ўсё расшыраны да нізу і не мае традыцыйных манжэтаў-гумак.

Адкладныя манжэты з блузак перакачавалі на рукавы жакетаў. Касцюмы сёння папулярныя з шырокімі прамымі штанамі і доўгімі, ніжэй лініі клубоў, пінжакамі. Наогул, касцюм на жанчыне сёння, здаецца, мужчынскі. І колер — шэры, крэмавы, чорны, і малюнак — буйная клетка, і сілуэт — прамы двухбортны жакет ды нярэдка штаны са «стрэлкамі» — усё скапіравана з мужчынскіх касцюмаў.

Пра спадніцу амаль забыліся. Хаця да трыкатажных кофтачак іх, наадварот, надзяваюць. Але зусім не абавязкова імчаць у краму па апошнюю пакупку. Лепш пашукайце ў шафе доўгую спадніцу ў складкі. Гэтая вопратка школьніцы зноў становіцца аб'ектам увагі.

Калі ж казаць пра верхняе адзенне, то нельга не зазначыць такі факт. У модзе колеры дзвюх стыхій — зямлі і агню. Адсюль і кантрасты. Акрамя скуранай вопраткі модныя доўгія плашчы і паліто, звычайна аднабортныя, прамога сілуэту без усялякіх адметных какетак, клапанаў і пагонаў. Не маюць «наваротаў» і плашчы-накідкі з прарэзамі замест рукавоў. На фоне гэтых «шэрых» рэчаў касцюмы ў этнічным стылі выглядаюць нават дзёрзка.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

# «КРОПКІ», ЯКІЯ СТАВЯЦЦА МОЦНАЙ РУКОЙ

**З 25 па 30 верасня на Дрэтуньскім палігоне, што каля Полацка, адбыліся тактычныя вучэнні з баявой стральбой часцей цэнтральнага падпарадкавання, артылерыі 65-га армейскага корпуса і 120-й дывізіі. Кіраваў вучэннямі начальнік ракетных войскаў і артылерыі Узброеных Сіл Беларусі Іван Чыкал. У час вучэнняў былі зроблены пускі ракет комплексу «Кропка» і рэактыўнай сістэмы залпавага агню «Смерч».**



**Дзеянне першае. Знішчаны камандны пункт дывізіі**

30 верасня, каля 11 гадзін раніцы. Над палігонам амаль усё неба зацягнула шэрымі хмарамі. Раптам паміж хмызняку і маладзенькіх елачак, нібы «неваляшка», з зямлі пачала «ўставаць» чорная з невялікімі крыламі ракета. Падняўшы сваю «галаву» амаль вертыкальна, ракета моцна стрэліла, аж ў вушах забалела, і, пакідаючы за сабой бела-чырвонае полымя, «ірванула» ўгору.

Як паведаміў карэспандэнту «Звязды» камандзір 22-й ракетнай брыгады палкоўнік Міхась Валюк, пад чыім кіраўніцтвам быў зроблены пуск «Кропак», ракеты цалкам знішчылі два камандныя пункты механізаванай дывізіі ўмоўнага праціўніка. Цэлі знаходзіліся на адлегласці 25 кіламетраў ад комплексаў «Кропкі». Першая ракета знішчыла камандны пункт, адхіліўшыся ўбок толькі на 60 метраў (па нарматывах на адзнаку «выдатна» — да 100 метраў). Другая трапіла ў цэль цюцелька ў цюцельку, як кажуць, у «дзесятку».

*ДАВЕДКА «ЗВЯЗДЫ»*

*Ракетны комплекс «Кропка» прызначаны для знішчэння кропкавых і маламерных наземных цэляў, у тым ліку і рухомых. Зброя сваю назву атрымала за высокія дакладныя характарыстыкі. Сістэма кіравання ракетай аўтаномная, бартавы камп'ютэр разлічвае траекторыю палёту да цэлі на ўсім участку траекторыі. Далечыня паражэння «Кропкі» — ад 20 да 120 кіламетраў. Пускавая ўстаноўка размешчана на аўтамашыне, якая мае магчымасць фарсіраваць водныя перашкоды, пры гэтым выкарыстоўваюцца два моцныя вадамёты. На сённяшні дзень комплекс «Кропка» мае лепшыя ў свеце характарыстыкі для зброі гэтага класа. Перавышаў па якасці «Кропку» толькі комплекс «Ака», але ён быў знішчаны пасля падпісання дагавора АСУ-2.*

**Дзеянне другое. «Смерчам» накрыла верталётныя пляцоўкі праціўніка**

30 верасня. 11 гадзін 45 хвілін. Амаль напалову «закапаўшыся» ў жоўты пясок, на пляцоўцы размясціліся 4- і 8-колавыя 14-метровыя машыны «МАЗ» з устаноўкамі «Смерч» на борце. Начальнік ракетных войскаў і артылерыі Узброеных Сіл Беларусі Іван Чыкал дае каманду «Пуск!» — і праз хвіліну з кожнай устаноўкі ў неба «зрываюцца» па аднаму рэактыўнаму снараду. Ужо праз хвіліну на камандны пункт дакладаюць па рацыі, што ракеты «Смерча» трапілі дакладна ў цэль. Адразу даецца каманда для залпавага агню. ***Расказвае камандзір 336-й рэактыўнай брыгады палкоўнік Юрый СІДАРАЎ.***

— Рэактыўная сістэма залпавага агню выкарыстоўваецца для поўнага знішчэння аб'ектаў, такіх як камандныя пункты, верталётныя пляцоўкі, верталёты на пасадачных пляцоўках, вялікая колькасць жывой сілы і тэхнікі праціўніка, батальёны радыёэлектроннай барацьбы, рухомыя пункты кіравання войскамі і перадавыя пункты кіравання авіяцыі.

Сістэма залпавага агню «Смерч» размешчана на айчынных машынах «МАЗ». 32-тонная машына «МАЗ» мае магчымасць развіваць скорасць да 70 кіламетраў у гадзіну. Пускавая ўстаноўка мае магчымасць знішчаць цэлі на адлегласці ад 20 да 70 кіламетраў. На палігоне 336-я рэактыўная брыгада знішчыла верталётную пляцоўку на адлегласці ў 23 кіламетры. Рэактыўныя снарады трапілі ў цэль ужо праз 14 секунд пасля пуску. Адна баявая машына «накрывае» плошчу 600 на 600 метраў. На гэтай тэрыторыі ўсё жывое і тэхніка знішчаецца цалкам.

На адной баявой машыне размешчана 12 рэактыўных снарадаў. Залпам яны вылятаюць у цэль за 40 секунд. Калібр рэактыўнай ракеты 300 міліметраў, вага — 800 кілаграмаў. Адна рэактыўная ракета «Смерча» выканана ў выглядзе касеты, у якой размешчаны 72 снарады вагой 1,81 кг. Калі «страла» завісае над цэллю, то на вышыні 3 кіламетраў касета раскрываецца і на зямлю сыплецца снарадны град. Снарады, у сваю чаргу, таксама разрываюцца на шарыкі картэчнага тыпу вагой 4,6 грама.

Рэактыўная сістэма залпавага агню «Смерч» на сённяшні дзень не мае аналагаў у свеце і лічыцца самай эфектыўнай зброяй гэтага класа. Пад кіраўніцтвам Юрыя Сідарава знаходзяцца 3 дывізіёны, у якіх налічваецца 36 баявых машын.

У час вучэнняў на палігоне прысутнічаў міністр абароны Беларусі генерал-палкоўнік Аляксандр Чумакоў. Па выніках баявых стрэльбаў міністр паставіў ракетчыкам адзнаку «выдатна».

**Сяргей КУРКАЧ.**

*Мінск–Дрэтунь–Мінск.*

**На фотаздымку:** «Кропка» накіроўваецца на кропку.

**Фота Авеніра КАЛОДКІ.**

Валерый ГАПЕЕЎ

# ВОСЕНЬСКІЯ РУЖЫ



АПАВЯДАННЕ

Ужо вывеў апошні выкрут свайго роспісу, калі позірк ледзь-ледзь скокнуў уніз. І там, на краёчку другой ведамасці, што выглядваў з-пад верхняга ліста, не прачытаў — схапіў адным узмахам вейкі кароткі, як стрэл, радок: Шкут І.В. Шкут... Ірына Віктараўна?.. Ірынка... Шкуця...

— Грошы бяры! Заснуў ад радасці?

— А то не! У інжынерах столькі атрымаць не марыў!

Васіль згроб пругкія пачкі новенькіх «зайцоў», «баброў» і «рысяў», і яго тут жа выпхнулі на волю з цеснага, прапахлага гарачым маслам нутра чаргі. Рушыў да курылкі і там, ледзь прыпаліўшы цыгарэту, кінуў яе. Праз некалькі хвілін ён атрымаў у аддзеле кадраў усе неабходныя яму даныя.

Так, гэта яна, Шкут Ірына Віктараўна. Год таму прыйшла на завод. Маці-адзіночка. Жыве ў інтэрнаце. Дачушцы яе чатыры годзікі.

...На вуліцы вісела макрэдзь. Твару было зябка, макрэча халадзіла шыю, але ісці вось так, штоімгнення кранаючыся тварам мокрай павуціны драбнютнага дажджу, было прыемна. Ён як жаніўся, зразумеў, што гэта прыемна — збіраць на твары кроплі, халадзіць да густой чырвані пальцы рук. І прыйсці такім дадому. Там хутка, прыскокваючы на аднойназе, пераапрануцца ў сухое, а чайнік ужо густа пусціць струмень пары. Потым абхапіць, доўга трымаць у далонях гарачы кубачак з кавай, удыхаць гаркавы водар, піць маленькімі глыточкамі і паглядваць на слязлівы твар аконнай шыбы.

...Шыбануў у ноздры непрыемны, востры пах нямытага чалавечага цела. Значыць, Надзея дома. Так заўсёды пахла ў кватэры ў першыя гадзіны яе вяртання з вандровак у Польшчу і Расію.

Жонка сядзела на кухні ў сваім дарожным адзенні — спартыўных штанах і тоўстым світэры, скінуўшы куртку пад стол. Чапляла відэльцам прама з распатрошанай бляшанкі кавалкі вяндліны з густым белым тлушчам, жавала без смаку і задавальнення. Васіль павітаўся. Надзея кіўнула разяўленым ротам. Пракаўтнула.

— Што, напрацаваўся? Работнічак...

— Я вось зарплату атрымаў, — Васіль стаў выкладаць на стол грошы.

— У туалет вунь з імі схадзі. Во грошы, — Надзея палезла глыбока знізу уверх пад світэр, выцягнула бліскучы ад поту, перахоплены чорнай гумкай тонenькі скрутак долараў. — Я за іх нямытая па тыдню езджу, а ты тут — у цяпле, кава, тэлевізар, канапа — сто «зайцоў» зарабіў.

— Я не магу і не хачу ездзіць па рынках, — ціха адазваўся Васіль.

— А тэлевізар імпартны глядзець любіш? А на канапе мяккай паляжаць? А каву папіць?! — Надзея на апошняй фразе перайшла на крык.— Гатовае табе давай!

— Жывуць людзі і без гэтых паездак, — прымірэнча загаварыў Васіль. — Годзе ўжо табе ездзіць. У нас жа ўсё ёсць...

— Гэта ў мяне ёсць! Я цябе апранула і абула! Каб не штурхала ў каршэнь, ты б дагэтуль інжынерам сабе на туалетную паперу адно і зарабляў бы!

— Ну, ты ўсё робіш... Ды хіба ў грашах гэтых справа? Цягнеш сюды, цягнеш, а хата... пустая. Сумна ў нашай кватэры.

— У маёй кватэры! Усё тут маё! І годзе мне цябе, лайдака, песціць. Праз тыдзень у Растоў едзем. Я адна павінна сумкі па 40 кілаграмаў цягаць?! Не паедзеш — вымятайся з кватэры! Усё! — як адсекла, моўчкі, спакойна запрацавала відэльцам.

Васіль стаяў. Не распрануўся.

— Не трэ было аборт той рабіць, — сказаў задуменна. — Глядзіш, чатыры б гады было нашаму...

— Жабракоў пладзіць?! На хлебе і вадзе, на ложку з казармы?! Во табе! — Надзея тыркнула ў твар Васілю кукіш з бліскучым вялікім пальцам. — бач, успомніў...

І раптам знік пакой, кватэра, жонка, востры пах, запэцканы ў тлушч стол. Стала цёпла і цёмна. І ў гэтай лагоднай цемры прагучаў пяшчотна ціхі голас: «Я нараджу табе дачушку...» Васіль адплюшчыў вочы, і яго працяла ўсяго ад імклівай думкі. Чатыры гады... Тады, у апошні з іх Ірынай дзень, калі ён сказаў, што жэніцца на Надзі і яна папрасіла яго застацца апошні раз, і кахала пяшчотна да болю... Значыць у яго ёсць дачушка... У яго ёсць дачушка!

— Не паеду!

Надзея здрыганулася ад рашучага выкрыку Васіля, здзіўлена глянула.

— Пайшоў прэч, ануча! Інтэлігент вашывы! Пр-э-эч!

...Плошча была пустой, мокрай. Два кволыя ліхтары кідалі на шэры бетон хваравітыя плямы жоўтага святла. Васіль ішоў ад помніка Леніну. Ён бачыў сёння там, на двух вузкіх градках, некалькі позніх чырвоных восеньскіх ружаў. Яму не трэба многа.

Ён прынясе тры. Тры познія восеньскія ружы, як тры «Даруй». За падманутае каханне. За сваю бязвольнасць. За цёплыя салёныя ручайкі на гарачых шчоках у тую апошнюю іх ноч. Ён усё раскажа. Як быў баязлівым і слабым. Як паманіла яго ўтульная кватэрка з канапай, як вірлівая, зубастая страсць Надзеі зацьміла ціхае, трапяткае каханне Ірыны. І яна даруе. Яны стануць жыць разам, з маленькай дачушкай...

Васіль ірваў ружу за асклізлае сцябло, як побач па-свінячы віскнулі тармазы, і строгі голас загадаў крышку насмешліва:

— Ну, хадзі, падвязем.

Ружа з пашкуматаным сцяблом выпала з рукі. Міліцыянер не стаў чакаць, падыходзіў.

— Падымі, падымі кветку!

Васіль паслухаўся.

У «дзяжурцы» было накурана да сіняга, сыра, няўтульна.

— Ну, герой, — капітан міліцыі загаварыў да Васіля, — на бутэльку зарабіць не можаш? Мала што з могілак кветкі збіраеце, дык да адзінае клумбы палезлі?

— Не, не, што вы... Я... Мне не на бутэльку. У мяне, ведаеце, такая справа..

Васіль вагаўся. Няўжо расказваць ім, чужым, насмешлівым людзям аб сваіх памкненнях? Хіба яны зразумеюць? Ён адчайна шукаў выйсце, і яно ўзнікла ў радку пратакола — лічбы падказалі, што сёння за дзень. Крышачку, ледзь-ледзь агіднае выйсце, затое — пэўнае.

— Сёння юбілей у нас з жонкай, чатыры гады. Я на дзень вяселля ёй заўсёды ружы купляў, а сёння — хоць плач, не знайшоў. А яна ж так гэтых ружаў чакае...

Ледзь-ледзь агіднае напачатку пачуццё нечакана вырасла, халоднае, коўзкае, яно запаланіла ўсё нутро, і стала брыдка, нясцерпна брыдка...

Капітан паківаў галавой.

— Генчык, правер, ці праўда.

Дзяжурны некуды тэлефанаваў хвілін дзесяць, распытваў. Потым павярнуўся да капітана:

— Праўду кажа.

Капітан узняўся, пакінуўшы на стуле мокрую пляму.

— Паехалі, падвязу. Мне ў твой бок. Мы з тваім шваграм рыбачым разам. Ружы не забудзь.

Ехалі моўчкі. Дзесяць хвілін дарогі ў Васіля цвелілася жаданне спыніць машыну, расказаць капітану праўду. Ён бы зразумеў, гэты наскрозь прамоклы капітан. Каб толькі ён не сябраваў з братам Надзеі.

Надзея расчэсвала кароткія свае мокрыя валасы перад люстрам у пярэдняй.

— Гэта... Ну, сёння ж наш маленькі юбілей. Чатыры гады, як пажаніліся. Вось, ружы табе... У падарунак. — Васіль пракаўтнуў шурпаты ком. — Мне тыдзень за свой кошт дадуць на заводзе. З'ездзім у Растоў.

...Кубачак кавы духмяна параваў у сціснутых далонях. Кроплі рабілі на аконнай шыбе бліскучыя няроўныя дарожкі. Зусім як слёзы на жаночым твары.

— Фу, якая дрэнь!

Васіль азірнуўся. Надзея глядзела на апушчаную кветкай уніз ружу. Пры зыркім святле Васіль убачыў, што лісце руж, ніжнія пялёсткі кветак былі пакрыты гнілой цвіллю. Толькі зверху кветка выглядала жывой, трапяткой, шчырай...

Ружы Надзея выкінула праз фортку.

«Добра, што не панёс такія ружы да Ірыны», — думаў Васіль засынаючы, прыткнуўшы нос да пульхнага жончынага пляча.

*Па просьбе аўтара ганарар за твор будзе пералічаны ў фонд Таварыства беларускай мовы.*

# «ПАЭТ НІКОЛІ НЕ КАНЧАЕЦЦА...»

**У Доме літаратара ў Мінску адбыўся вечар, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі і прэміі Ленінскага камсамола рэспублікі Анатоля ГРАЧАНІКАВА.**

Ён быў паэт ад Бога. І гэта — не дзяжурны выраз. Бо гэта — ісціна. А ў яе, ісціны, як вядома, варыянтаў не бывае...

Тым вечарам у пісьменніцкім Доме гучала Яе Вялікасць Паэзія. Сапраўдная, непадробная, выпакутаваная (а не напісаная, як мяркуюць некаторыя) вялікім і непаўторным сэрцам Паэта. Менавіта Паэта з вялікай літары, якім быў, ёсць і застанецца ў беларускай нацыянальнай літаратуры, а значыць, і ў нашым бессмяротным жыцці ён, Творца і юбіляр Анатоль Грачанікаў.

Ён, на вялікі жаль, да свайго шасцідзесяцігадовага юбілею не дажыў: горкім сакавіцкім днём 1991-га жыццё Анатоля Сямёнавіча трагічна абарвалася. А колькі б яшчэ напісаў, колькі б парадаваў самабытным, таленавітым паэтычным словам і аматараў паэзіі, і яе прыдзірлівых крытыкаў. І першыя, і другія высока, па вартасці цанілі дар Грачанікава, верылі і спадзяваліся: ён напіша, абавязкова напіша яшчэ, і яшчэ, і яшчэ...

Аднак і тое, што напісаў Творца, радуе і натхняе, упрыгожвае наша жыццё і прымушае задумацца над ім і сёння. І так будзе. Бо меў рацыю вядучы творчага вечара, прысвечанага памяці Анатоля Грачанікава, старшыня праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў: «Паэт ніколі не канчаецца...»

На такіх ці падобных да іх вечарынах зазвычай слёз не пускаюць: Яе Вялікасць Паэзія прымушае думаць, разважаць, аналізаваць, а не даваць ходу эмоцыям. Тут жа такое здарылася: адным з першых са сцэны Дома літаратара чытаў вершы Анатоля Грачанікава... Анатоль Грачанікаў — унучак дзеда-Творцы: мілы, такі прыгожы, як і сам Анатоль Сямёнавіч, дванаццацігадовы нашчадак. Дрыжэў хлапчукоў галасок, ён плакаў, а ўслед за ім — і зала: непадробна, шчыра, па-чалавечы зразумела...

Таго, што заслужыў Паэт пры жыцці, — праўдзівых слоў пра абаяльнасць, таленавітасць, чалавечую спагаду і любоў да іншых, не ўтойвалі ад прысутных выключна ўсе выступоўцы. А яны, выступоўцы, былі з імёнамі — самі, што называецца, з вусамі: паэты і пісьменнікі Мікола Аўрамчык і Уладзімір Някляеў, Генрых Далідовіч і Уладзімір Ліпскі, Уладзімір Скарынкін і Яўген Каршукоў, Алесь Бадак і сапраўды народны кампазітар Ігар Лучанок...

Вершы і песні на словы Анатоля Сямёнавіча выконвалі артысты Тамара Мікалаева і Людміла Крылёнак, Мікалай Казейка і дыктар і журналіст Беларускага тэлебачання Ларыса Грынько. Хораша, непадробна спявалі і дэкламавалі творы паэта выхаванцы дзіцячага садзіка «Ліхтарык» з беларускай сталіцы, грала на цымбалах Таццяна Чанцова.

Творчыя вечары, як і Яго Вялікасць Жыццё, пачынаюцца і заканчваюцца. Вялікі Дзякуй усім за памяць сказала жонка Анатоля Грачанікава Нэля Іванаўна, дачка Алеся, сын Андрэй. Яны не ўтойвалі таго, што проста не чакалі такой увагі і павагі да мужа, бацькі, дзеда...

Да Творцы, пасланага нам Богам.

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**

# Вадалеяў чакаюць непрыемнасці на вуліцы, Авенаў — у хатнім асяроддзі

***Усходні гараскоп на наступны тыдзень***

КАЗЯРОГ акажацца ў пройгрышы, калі паддасца ўплыву людзей, якія яго акружаюць, і будзе слухаць іхнія парады. Ідзіце толькі сваім шляхам, які не завядзе вас у рай, але дасць магчымасць знайсці рашэнне вашых праблем. Гэты тыдзень будзе асабліва паспяховым для дзярждзеячаў, камерсантаў і спартсменаў. Настане той самы час, калі можна завязаць моцныя сямейныя вузы.

ВАДАЛЕЙ павінен быць асцярожным на вуліцах і трымацца далей ад непрыемнасцяў, што здараюцца на іх. У вашых жа інтарэсах не садзіцца за руль пасля 22 гадзін. Асцярожна вядзіце свае фінансавыя справы, пра поспех якіх няхай ведаюць як мага менш. Цэлы сонм планет гарантуе вашы поспехі, але здабываць іх давядзецца ў нялёгкай барацьбе.

РЫБ чакае заспакаенне ў сямейным жыцці. Нягледзячы на паяўленне фінансавых праблем, іх вырашэннем вы будзеце задаволены. Тое, што ўдасца вам зрабіць, атрымае высокую ацэнку навакольных. Вы з лёгкасцю будзеце весці справы, а бізнес можна будзе бязмежна пашыраць. Будзьце, аднак, гатовыя раскрыць кашалёк у канцы тыдня, калі гэтага запатрабуюць абставіны.

АВЕНЫ крыху пасварацца з хатнімі, але хутка знойдуць магчымасць для прымірэння. На рабоце ўсё цудоўна, але толькі тым з вас, каму менш за 32 гады, прыйдзецца панервавацца з-за канфлікту з начальствам. Студэнты ярка блісnуць сваімі ведамі, за што і будуць узнагароджаны. Бізнесменам планеты раяць больш звяртаць увагі на рэкламу і адносіны з прэсай, без дапамогі якой дзелавыя перспектывы амаль немагчымы.

ЦЯЛЬЦЫ блізкія да атрымання таго, аб чым доўга марылі. Але ці зможаце вы выкарыстаць тое, што ўжо атрымалі, — гэта іншае пытанне. Нейкі час вам давядзецца ўдзяліць хвораму сваяку. А ў астатнім трэба лепш сачыць за ўласнымі фінансавымі справамі. Тут магчыма невялікая рызыка і атрыманне дывідэндаў. Аднак утаймуйце азарт і своечасова спыніцеся, інакш страціце і тое, што набылі.

БЛІЗНЯТАМ трэба будзе лепш кантраляваць свае ўчынкі і пачуцці. Хуткія рашэнні спатрэбяцца пры розных выпрабаваннях, якія вам рыхтуе начальства на службе. Яно не ўстаіць, калі вы папросіце прыбаўкі да зарплаты ці пераводу на больш высокую пасаду. Смялей ідзіце на кампрамісы і не ганіцеся цяпер за грашыма, з дапамогай якіх вы думаеце вырашыць усе вашы праблемы.

РАК акажацца напярэдадні даволі цяжкага перыяду, калі ў вас паявіцца і стомленасць, і расчараванне не зусім удалым ходам спраў. З крызісу вам дапаможа выйсці каханы чалавек. Лепш складуцца абставіны ў тых, што заняты на дзяржслужбе. У канцы тыдня хмары над вашай галавой рассеюцца, і прыхільнае да вас Сонца вызваліцца ад адмоўнага ўплыву іншых планет.

ІЛЬВЫ могуць многа працаваць, але вынікі іх работы не заўсёды заслужана ацэніць кіраўніцтва. Віной усяму будуць вашы паводзіны, якія не заўсёды падпарадкоўваюцца логіцы і разважнаму сэнсу. Па гэтай жа прычыне можа разладзіцца ваш шлюб. З гэтым лепш пачакаць, як і з выкананнем новых фінансавых праектаў. Але супакойцеся: у вас усё атрымаецца крыху пазней, калі планеты зменяць гнеў на міласць.

ДЗЕВА няхай устрымаецца ад здзелак з нерухомасцю. Тым, хто аказаўся за мяжой, можна прабыць там да канца года. Нічога асаблівага за гэты час у вас дома і на рабоце не адбудзецца. У кватэры ўсё ж лепш праверыць электраправодку, каб пазбегнуць усякіх выпадковасцяў. Ваша дабрыня вышэй за ўсе пахвалы, але сачыце за тым, каб яе не выкарысталі ў сваіх інтарэсах дрэнныя людзі.

ШАЛІ паспяхова завершаць перамовы аб набыцці нерухомасці, аднак карыстацца ёю вы зможаце толькі праз нейкі час. Не спяшайцеся падпісваць новыя кантракты і пагадненні. Спачатку пераканайцеся ў тым, што вам не пагражаюць фінансавыя і іншыя страты ў выніку іх рэалізацыі. Крыху падвядзе здароўе кагосьці з вашых родных, догляду якіх давядзецца ўдзяліць час.

СКАРПІЁНЫ па-ранейшаму могуць разлічваць на павышэнне па службе, хоць такая перспектыва праглядваецца толькі ў туманнай будучыні. Студэнтам на экзаменах і ўдзельнікам розных конкурсаў давядзецца зведаць горыч няўдач. Не ўсё гладка складзецца з разглядам вашай справы ў судзе, але падтрымка родных і дапамога сяброў вам забяспечана.

СТРАЛЬЦЫ ўступаюць у этап рамантычных прыгод, якім не перашкодзяць заняткі бізнесам, а таксама пачатак новага дзелавога праекта. Планеты раяць вам як мага далей хаваць дзелавыя сакрэты ад усіх і нават ад самых блізкіх сваякоў. Станоўчы адказ на прапанаванне рукі і сэрца не прымусіць сябе чакаць, калі толькі гэтаму не перашкодзіць узнікненне фінансавых праблем.

**ЛЕАНІД КОТАЎ,**
**кар. ІТАР—ТАСС.**

г. Дэлі.

***АНТАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНІ***

# СВЕЦІЦЬ МЕСЯЦ

Пад музыку песні «Свеціць месяц» у гомельскім Падняпроўі танцуюць. Звычайна гэты народны танец выконваецца ў сярэдзіне гулянняў; разабраўшыся парамі, танцоры ўтвараюць рады і з прытопам, плаўнымі пераходамі робяць немудрагелістыя, але вабныя фігуры, нібы перадаюць змест песні.

Беларуская народная песня «Свеціць месяц» даволі распаўсюджаная ў нашай краіне і існуе ў варыянтах. Адзін з іх запісаны яшчэ ў 1886 годзе ва Украіне, у Кіеўскай губерні, ад жанчын з пазначэннем «перанята ад беларускіх плытагонаў». Тэкст гэтага варыянта (ён увайшоў у «Анталогію беларускай народнай песні», складзенай Г. Цітовічам) падаецца ў газеце і прапануецца мелодыя, апрацаваная ў ансамблі народнай музыкі «Бяседа».

**Міхась ШАВЫРКІН.**




*Сваці, месяц, сваці, ясны,*
*І паўночная зара. (2)*
*Ой, сваці ж ты на дарожку,*
*Дзе мой мілы ад'язджаў. (2)*
*Ад'язджае, пакідае,*
*Застаюся сіратой. (2)*
*Сіратою маладою*
*Ні дзяўчынай, ні ўдавой. (2)*
*Ні дзяўчынай, ні ўдавою, —*
*Салдатачкай маладой. (2)*

# У ТАЛЕНАВІТЫХ ЁСЦЬ ФОНД

**З 1 па 17 кастрычніка 1998 года ў выставачнай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва пройдзе выстава твораў стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Акрамя фонду арганізатарамі выстаўкі з'яўляецца Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Музей сучаснага выяўленчага мастацтва.**

Трэба адзначыць, што фонд быў утвораны ў 1996 годзе дзеля стварэння ўмоў для станаўлення і творчага развіцця таленавітай моладзі. А каб падтрымліваць гэты самы талент і не дазволіць моладзі кінуць яго пад ногі больш прыбытковым і менш каштоўным для краіны заняткам, патрэбны сродкі. Дзеля такой высакароднай мэты яны знаходзяцца — часткова з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і добраахвотных узносаў беларускіх і замежных арганізацый і прадпрыемстваў, іншых крыніц — «няхай яны ніколі не абмялеюць». У састаў савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь уваходзяць супрацоўнікі міністэрства і тытулаваныя дзеячы культуры, напрыклад, народны артыст СССР Мікалай Яроменка і народны мастак Беларусі Гаўрыіл Вашчанка.

Выстава, што працуе з 1 кастрычніка, — першы паказ работ стыпендыятаў 1996—1998 гадоў. Сярод іх — навучэнцы і студэнты абласных дзіцячых мастацкіх школ, студый, спецыяльных навучальных устаноў, у тым ліку Акадэміі мастацтваў: Таццяна Кандраценка, Аляксей Верасовіч, Вольга Станілевіч, Павел Заблоцкі, Наталля Коцік, Уля Лук'яненка і інш.

## ГАСПАДЫНІ НА ЗАМЕТКУ

### Усё пра бульбу

Спецыялісты вызначылі, што для таго, каб захаваць карысныя рэчывы, бульбу лепш за ўсё запякаць неабабранай у духоўцы або на кастры: так у ёй застанецца максімум амінакіслот; бялку ў лупінах становіцца на 10—20 працэнтаў менш, затое ўнутры — на 8—10 працэнтаў больш.

На другім месцы па карыснасці — бульба, звараная ў мундзірах. Клубні старанна прамыйце і, не абіраючы, пакладзіце ў эмаліраваную пасудзіну з кіпячай вадой, шчыльна прыкрыйце накрыўкай.

Калі вам больш даспадобы абабраная бульба, здымайце лупіну тоненька (у наружным слоі знаходзіцца шмат карысных рэчываў) і абавязкова нажом з нержавеючай сталі. Ні ў якім разе не разразайце клубні, не памешвайце іх.

Значная частка вітамінаў пераходзіць у адвар, таму не вылівайце яго, а выкарыстоўвайце для прыгатавання пюрэ, вегетарыянскіх супоў.

Таўкач для размінання бульбы павінен быць драўляным.

Бульбяное пюрэ стане смачнейшым і больш пажыўным, калі змяшаць яго з пюрэ з бабовых (гарох, фасоля, боб), або з памідораў і рэвеню, або баклажанаў, кальрабі, з любой кашай у суадносінах 1:1 ці па смаку.

Гатовую страву ешце адразу. Чым даўжэй яна стаіць, тым менш карысных рэчываў у ёй застанецца.

Да 50 працэнтаў вітаміну С і 30 працэнтаў усіх карысных мінеральных соляў губляецца пры няправільным прыгатаванні бульбы.

Карысным будзе і такі напамінак: у пазелянелых на святле і прарослых клубнях назапашваецца ядавітае рэчыва — саланін. Зялёныя клубні нельга выкарыстоўваць ні ў ежу, ні на корм скаціне.

Любая страва з бульбы добрая ў спалучэнні з іншай агароднінай, салатамі з ёй. А якая смачная бульба са звычайным чорным хлебам! А вось падаваць яе з мясам, птушкай, рыбай, грыбамі (хаця гэта і смачныя традыцыйныя стравы нашай кухні) — не варта, бо спалучэнне крухмальных і бялковых прадуктаў для здароўя шкоднае. Дарэчы, многія гэта вельмі добра адчуваюць на сабе, пакутуючы ад лішняга газаўтварэння.

**Але бульба не толькі каштоўны і незаменны сёння прадукт харчавання.** Гэта яшчэ і эфектыўны касметычны сродак, які амалоджвае, разгладжвае маршчыны. Вы здзіўляецеся? Паспрабуйце самі. Прапануем два рэцэпты касметычных масак:

1. Тры сырыя бульбіны натрыце на дробнай тарцы, дабаўце мукі, каб атрымалася кашка.

2. Да нацёртай сырой бульбіны дабаўце некалькі кропель алею і адну сталовую лыжку свежага малака.

Выберыце адзін з варыянтаў, налажыце маску на твар хвілін на 20, потым змыйце цёплай вадой, памажце твар крэмам.

А вось такі міні-сеанс прыгажосці прапануюць французскія касметолагі: сырую бульбіну абярыце, добра вымыйце, адрэжце некалькі тонкіх скрылёчкаў, налажыце на заплюшчаныя вочы. Пры гэтым трэба на 5 хвілін прылегчы і расслабіцца. Пасля такога сеансу вы ўбачыце свет іншымі вачыма.

**Не абыходзіцца без бульбы і народная медыцына.**

- Скрылёчак сырой бульбіны добра прыкласці да апёку — адразу стане лягчэй.
- Здаўна сок сырой бульбы выкарыстоўваецца ўрачамі-натурапатамі для лячэння язвавай хваробы страўніка і дванаццаціперснай кішкі, эразійнага гастрыту і гастрыту з павышанай кіслотнасцю страўнікавага соку. На прыём дастаткова 30—50 г свежапрыгатаванага соку.
- Удыханне пары над гарачым адварам бульбы ў мундзірах — цудадзейны старадаўні сродак пры запаленні верхніх дыхальных шляхоў.



## ВЯСКОВАМУ ГАСПАДАРУ

### Падманіце птушку святлом



Што трэба зрабіць, каб і з надыходам ранніх прыцемкаў куры працягвалі несціся? «Рабочы дзень» курэй звычайна падаўжаюць пры дапамозе штучнага асвятлення, але ўводзіць яго можна толькі пасля завяршэння працэсу лінькі і толькі для дарослай добра ўкормленай птушкі. Лямпачку невялікай магутнасці (да 60 Вт) уключаюць у 6 гадзін раніцы да поўнага світання, а потым увечары, з надыходам прыцемкаў, і выключаюць прыкладна ў 19-20 гадзін. Прычым агульную працягласць электрычнага і натуральнага асвятлення неабходна падтрымліваць у межах 13-14 гадзін.

Вашым нясушкам будзе цяжка прывыкнуць да такога рэзкага пераходу ад «дня» да «ночы» і наадварот і ў цемені адшукаць сваё месца для адпачынку. Калі ёсць магчымасць, правядзіце не адну, а дзве лямпачкі, уключайце і выключайце іх з некаторым інтэрвалам, каб даць магчымасць курам сесці. Калі ж лямпачка адна, прывучыце іх усаджвацца на седала па-ваеннаму хутка. Для гэтага святло на імгненне выключаюць, затым зноў уключаюць і робяць так да таго часу, пакуль усе птушкі не ўсядуцца. Урэшце, да канца падмануць сваіх нясушак вам не ўдасца: **пры выкарыстанні штучнага асвятлення павялічваецца не толькі яйканоскасць птушкі, але і ўжыванне ёю кармоў**. Ці гатовы вы да гэтага? Добрыя нясушкі адкладаюць у сярэднім два яйкі за тры дні. Для аднаўлення «рабочай сілы» ім неабходна ўдзень: *цэльнага зерня — 70 г на курыцу, молатага або камбікорму — 35—50 г, бялковага корму (гарохавая мука, макуха) — 10—15 г, кармоў жывёльнага паходжання — 12 г, караняплодаў (морква, бульба) — па 70—80 г, здробненага сена — 6—7 г, мелу, касцявой мукі — 7—8 г, солі — 0,5—1 г.*

Пасля такога «стала» вашы курачкі паверацць, што на двары — дзень і, напэўна, знясуць яечка.

## ВЫ ПРАСІЛІ РАСКАЗАЦЬ

### Як выправіць сапсаванае варэнне

Правільна зваранае варэнне захоўваецца даволі доўга ў пакаёвых умовах. Калі варэнне гатуецца з малой колькасцю цукру, яно можа забрадзіць. Закісае варэнне і ў тых выпадках, калі недастаткова старанна здымалі пену або ягады дрэнна праварыліся, а потым захоўвалі такое варэнне ў цёплым памяшканні.

Іншы раз варэнне мутнее, зацукроўваецца, можа пакрыцца плесняй. Не спяшайцеся з ім расстацца, яго можна выправіць.

Калі варэнне закісла, дабаўце ў яго цукар і дайце пакіпець 5—10 хвілін, здымаючы пенку. Затым пераліце ў слоікі, астудзіце і закрыйце накрыўкамі.

Зацукраванае варэнне можна выправіць двума спосабамі. Першы спосаб: дабаўце ваду з разліку 1/4—2/2 шклянкі на літр варэння і праварыце 3—5 хвілін. Затым гарачае варэнне разліце ў слоікі і закатайце.

Другі спосаб: слоікі з зацукраваным варэннем пастаўце ў каструлю з вадой і нагрэйце, пакуль цукар не растане. Такое варэнне неабходна з'есці ў першую чаргу.

Плесня ўтвараецца таму, што слоікі былі вільготнымі або недастаткова чыстымі. Такое варэнне лепш, папярэдне старанна зняўшы плесню, адразу пусціць у ход. Калі варэнне трэба захаваць даўжэй, яго можна загатаваць: гатуюць спачатку сіроп, затым кладуць у яго плады і яшчэ гатуюць некалькі хвілін. Разліваюць гарачым у сухія слоікі і закрываюць накрыўкамі.



## ТВ-6 Масква

**5 кастрычніка, панядзелак**

**6.00** ТСН-6.
**6.10.** Мультсерыял «Гузік і Рыжык». 1-я серыя.
**6.25** «Любіш — глядзі».
**6.35** Дарожны патруль.
**6.50** Дыск-канал.
**7.25** «Тыя Хто».
**7.45** «Любіш — глядзі.»
**8.00** ТСН-6.
**8.10** «Крылы». Серыял.
**8.40** «Дзяжурная аптэка III». Серыял (Іспанія).
**9.15** Мультфільм «Ну, пачакай!»
**9.25** Тэлемагазін.
**10.00** ТСН-6.
**10.10** Аглядальнік.
**11.15** Спорт тыдня.
**12.00** ТСН-6.
**12.10** «Звайсці і абясшкодзіць». Прыгодніцкі фільм.
**13.45** Знак якасці.
**14.00** ТСН-6.
**14.10** «Эдэра». 1-я серыя. Серыял (Італія).
**15.05** Мультсерыял «Гузік і Рыжык». 1-я серыя.
**15.25** «Кунфу. Легенда працягваецца». 1-я серыя. Серыял для падлеткаў (ЗША).
**15.55** Тэлемагазін.
**16.10** Дыск-канал.
**16.40** Дарожны патруль. Зводка за тыдзень.
**17.00** ТСН-6.
**17.30** «Грэйс у агні III». Серыял. 1-я серыя. (ЗША).
**18.00** «Красуня». 1-я серыя. (Італія).
**19.00** Навіны. дня.
**19.30** Ток-шоу «Акулы пяра».
**20.30** «Тэатр Рэя Брэдберы». 1-я серыя. Серыял (ЗША).
**21.40** «У свеце людзей».
**22.15** «Катастрофы і войны тыдня».
**22.45** Дарожны патруль.
**23.00** ТСН-6.
**23.10** «Тыя Хто».
**23.30** Дыск-канал.
**0.05** Знак якасці.

**6 кастрычніка, аўторак**

**6.00** ТСН-6.
**6.10** Мультсерыял «Гузік і Рыжык».
**6.25** «Любіш — глядзі». Відэакліпы.
**6.30** Дарожны патруль.
**6.50** Дыск-канал.
**7.20** «Тыя Хто».
**7.40** «Любіш — глядзі».
**8.00** ТСН-6.
**8.10** «Грэйс у агні III». 1-я серыя. Гумарыстычны серыял (ЗША).
**8.40** «Красуня». 1-я серыя. (Італія).
**9.25** Дзякуй за пакупку!
**10.00** ТСН-6.
**10.10** «Тэатр Рэя Брэдберы». Серыял (ЗША).
**11.10** Дзякуй за пакупку!
**11.15** Знак якасці. Шоу народных талентаў.
**11.30** Катастрофы і войны тыдня.
**12.00** ТСН-6.
**12.10** «Жнівеньскія кіты». Драма.
**14.00** ТСН-6.
**14.10** «Эдэра». Серыял (Італія).
**15.05** Мультсерыял «Гузік і Рыжык».
**15.25** «Кунфу. Легенда працягваецца». Серыял для падлеткаў (ЗША).
**15.50** Дзякуй за пакупку!
**16.10** Дыск-канал.
**16.40** Дарожны патруль.
**17.00** ТСН-6.
**17.30** «Грэйс у агні III». Гумарыстычны серыял (ЗША).
**18.00** «Красуня». Серыял (Італія).
**19.00** Навіны дня.
**19.30** Мужчынскі клуб. Шоу Артура Крупеніна. «Лепшы кантрацэптыў — мазгі».
**20.30** «Хронікі маладога Індыяны Джонса». «Малады Індыяна Джонс і шлях шакала». Прыгодніцкі серыял.
**21.30** У свеце людзей.
**22.05** «Назло рэкордам!» Гумарыстычная праграма.
**22.35** Дарожны патруль.
**22.50** ТСН-6.
**23.00** «Тыя Хто».
**23.20** Дыск-канал.
**0.05** Начны сеанс. «Клубок». Трылер.

**7 кастрычніка, серада**

**6.00** ТСН-6.
**6.10** Мультсерыял «Гузік і Рыжык».
**6.25** «Любіш — глядзі».
**6.35** Дарожны патруль.
**6.50** Дыск-канал.
**7.25** «Тыя Хто».
**7.40** «Любіш — глядзі».
**8.00** ТСН-6.
**8.10** «Грэйс у агні III». Гумарыстычны серыял.
**8.40** «Красуня». Серыял (Італія).
**9.30** Дзякуй за пакупку!
**10.00** ТСН-6.
**10.10** «Хронікі маладога Індыяны Джонса». «Малады Індыяна Джонс і шлях шакала». Серыял (ЗША).
**11.00** Мультфільмы «Грачаская міфалогія», «Вось гэта дзень нараджэння!».
**11.15** Знак якасці.
**11.30** «Назло рэкордам!»
**12.00** ТСН-6.
**12.10** Кінатэатр ТВ-6. «Хэпі энд». Меладрама.
**13.45** Дзякуй за пакупку!
**14.00** ТСН-6.
**14.10** «Эдэра». Серыял (Італія).
**15.05** Мультсерыял «Гузік і Рыжык».
**15.25** «Кунфу. Легенда працягваецца». Серыял для падлеткаў. (ЗША).
**15.50** Дзякуй за пакупку!
**16.10** Дыск-канал.
**16.40** Дарожны патруль.
**17.00** ТСН-6.
**17.30** «Грэйс у агні III». Гумарыстычны серыял.
**18.00** «Красуня». Серыял.
**19.00** Навіны дня.
**19.30** «Я сама». Ток-шоу: «Бальзакаўскі ўзрост».
**20.30** «Кліч забойцы». «Кошкі-мышкі». Серыял (Аўстралія).
**21.30** У свеце людзей.
**22.05** Прэм'ера. Гумарыстычны серыял «33 квадратных метры. Дачныя гісторыі». 1-я серыя.
**22.35** Дарожны патруль.
**22.50** ТСН-6.
**23.00** «Тыя Хто».
**23.20** Дыск-канал.
**23.55** Знак якасці.
**0.05** Начны сеанс. «На вастрыі нажа». Трылер.

**8 кастрычніка, чацвер**

**6.00** ТСН-6.
**6.10** Мультсерыял «Гузік і Рыжык».
**6.25** «Любіш — глядзі».
**6.30** Дарожны патруль.
**6.45** Дыск-канал.
**7.20** «Тыя Хто».
**7.40** «Любіш — глядзі».
**8.00** ТСН-6.
**8.10** «Грэйс у агні III». Гумарыстычны серыял (ЗША).
**8.40** «Красуня». Серыял (Італія).
**9.25** Дзякуй за пакупку!
**10.00** ТСН-6.
**10.10** «Кліч забойцы». «Кошкі-мышкі». Серыял (Аўстралія).
**11.00** Мультфільмы «Грубасць і помста», «Гісторыя са страусам».
**11.15** Знак якасці.
**11.30** «Вы — відавочца».
**12.00** ТСН-6.
**12.10** Кінатэатр ТВ-6. «Сваё месца». Драма.
**14.00** ТСН-6.
**14.10** «Эдэра». Серыял (Італія).
**15.05** Мультсерыял «Гузік і Рыжык».
**15.25** «Кунфу. Легенда працягваецца». Серыял для падлеткаў (ЗША).
**15.50** Дзякуй за пакупку!
**16.10** Дыск-канал.
**16.40** Дарожны патруль.
**17.00** ТСН-6.
**17.30** «Грэйс у агні III». Гумарыстычны серыял (ЗША).
**18.00** «Красуня». Серыял (Італія).
**19.00** Навіны дня.
**19.30** «О.С.П.-Студыя». У гасцях у праграмы — Рыгор Гурвіч, рэжысёр тэатра «Лятучая мыш».
**20.30** «Lexx». 1-я серыя. Фантастычны серыял.
**21.35** У свеце людзей.
**22.10** «Обоzzz-шоу».
**22.40** Дарожны патруль.
**22.55** ТСН-6.
**23.05** «Тыя Хто».
**23.25** Дыск-канал.
**23.55** Знак якасці.
**0.10** Начны сеанс. «Ночы Малібу». Дэтэктыў.

*(Заканчэнне на 12-й стар.)*

## КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

### Парасон — «справа тонкая»



***Восень. Часта ідуць дажджы. Значыць, неабходна клапаціцца пра парасон. Здавалася б, няма нічога прасцейшага — высушыць парасон. Аднак і тут спатрэбіцца веданне цэлага шэрагу парад, аб якіх большасць з нас не мае ўяўлення.***

Такім чынам:

- калі ваш парасон зроблены з капронавай тканіны, ні ў якім разе не складвайце яго непрасохлым;
- сушыць парасон варта раскрытым толькі напалову, каб не расцягнуць тканіну, непрасушаны парасон абавязкова будзе прапускаць ваду;
- высушаны парасон нядрэнна пачысціць сухой шчоткай і працерці анучай, намочанай у гарачым моцным чаі;
- брудны парасон добра чысціць растворам нашатырнага спірту і вады (на 1 л вады 0,5 шклянкі нашатырнага спірту);
- запэцканы парасон можна вычысціць сумессю роўных частак воцату і вады;
- парасон можна вымыць цёплай вадой з пральным парашком, а затым апаласнуць і прасушыць;
- ніколі не прымяняйце для чысткі парасона бензін, газу, ацэтон — гэта прывядзе да разбурэння тканіны, і парасон будзе безнадзейна сапсаваны;
- захоўваць парасоны рэкамендуецца ў цёплым сухім месцы пры тэмпературы не вышэйшай за +35° і не ніжэйшай за -10°С.

## НОВАЕ ЖЫЦЦЁ СТАРЫМ РЭЧАМ

### Унікальнае паліто

***Старыя рэчы — вечная праблема. Выйшлі з моды, сталі вузкія, кароткія, але тканіна моцная, нават шыкоўная. Шкада выкідваць. Трэба шукаць прымяненне.***

Самая унікальная рэч — паліто. Ва ўмелых руках яно ператвараецца ў сарафан на халоднае надвор'е, проста доўгую камізэльку, цёплую спадніцу (з гатовай засцежкай). А ўсяго толькі і спатрэбіцца зняць вацін, пачысціць рукавы, падкроіць, зрэзы абшыць бейкай. З рэшткаў атрымаецца яшчэ шмат неабходных дробязей — пантофлі, вусцілкі, дыванчыкі для чацвераногіх.

З паліто можна зрабіць і «канверт для нованароджанага, убраўшы ўсё лішняе. Спінку варта прадубліраваць другім слоем драпу, але з боку ножак не прашываць, каб можна было ўставіць цвёрдую аснову з фанеры. Па баках канверта прышыйце лямкі-ручкі з гэтага ж драпу. Для рэгуліроўкі іх даўжыні зрабіце кожную з дзвюх частак. На адной — петлі, на другой — гузікі. Канверт можна ўпрыгожыць аплікацыяй, тасьмой.

Світэры, рэйтузы лёгка перарабіць на дзіця. Звычайная машына са строчкай «зігзаг» цалкам замяніць машыну для трыкатажу. Гарлавіну, манжэты, ніз світэра можна апрацаваць іншым трыкатажам. Кроіць палоскі трэба ўпоперак рызінкі.

Калі шарсцяная рэч зусім безнадзейна зношаная, то разрэжце яе на дэталі, зрабіце матрасікі рознай формы і... падарыце сваёй кошцы. Вельмі яна будзе задаволеная.

А калі кошцы не спадабаецца — скарыстайце як анучу для мыцця падлогі. У спалучэнні са швабрай — цудоўнае прыстасаванне для хуткага прыбірання.



## СВАІМІ РУКАМІ

### Падлога рыпіць

***Сапраўды, масніцы, што рыпяць пад нагамі, могуць вывесці з сябе нават вельмі цярплівага чалавека, ды і шчыліны ў падлозе не прыбаўляюць добрага настрою.***

Паспрабуем прымусіць замаўчаць «загаварыўшую» масніцу разам. Прасвідруйце ў падлозе адтуліну дыяметрам 15—20 мм і заліце ў яе цэментны раствор так, каб масніца «абаперлася» на яго. Адтуліну забіце коркам і зафарбуйце.

Другі спосаб больш складаны. Прасвідруйце адтуліну ў масніцы насупраць лагі, заліце ў яе цэмент, змешаны папалам з вадой. Праз два дні забіце (на клеі) у адтуліну драўляны штыр, каб ён даходзіў да пліт перакрыцця. Рэштку штыра адрэжце. Месца рамонту зашпаклюйце і зафарбуйце.

Шчыліны ў дашчанай падлозе заліце расплаўленым бітумам. Калі шчыліны шырокія, скарыстайце вузкую драўляную планку з клінападобным сячэннем. Намажце яе з абодвух бакоў сталярным клеем і забіце ў шчыліну пры дапамозе драўлянага малатка, загорнутага ў тканіну. Частку планкі, якая будзе выступаць, здыміце рубанкам.

Вузкія шчыліны (2-3 мм) можна зашпакляваць сумессю з казеінавага клею і дробнага пілавіння. Сумесь павінна мець кансістэнцыю размякланага пластыліну.

Масніцы, якія прагінаюцца, «лечаць» пры дапамозе шрубаў дыяметрам 4-5 мм, даўжынёй 30—50 мм. Іх укручваюць паміж масніцамі. Падлога становіцца маналітнай.

## МУЖЧЫНА Ў ЛЮСТЭРКУ

### Рукі выдаюць характар

***Жанчына, гледзячы на незнаёмага мужчыну, у першую чаргу звяртае ўвагу на... рукі. І толькі пасля на яго вочы, постаць, кашалёк.***

***Недагледжаныя мужчынскія рукі робяць на жанчыну такое ж уражанне, што і брудныя дзіравыя шкарпэткі. Таму рукі павінны стаць вашай «візітнай карткай». Для гэтага спатрэбіцца зусім нямнога намаганняў.***

Па-першае, **рукі павінны быць чыстымі.** Магчыма, гэта гучыць парадаксальна, але сустракаецца нячаста. Напрыклад, вы рамантуеце машыну, фарбуеце плот на дачы, капаеце бульбу — скура рук тут жа ўсмоктвае бруд. Каб гэтага не адбывалася, перад бруднай работай змажце рукі ахоўным крэмам. Гразь не будзе такой уедлівай.

**Небяспечная прывычка — мыць рукі пральным парашком, мокрым пяском, металічнай шчоткай.** Усё гэта прыводзіць да моцнага раздражнення скуры, а потым да яе агрубення. Лепш змажце рукі маргарынам або маслам і разатрыце ўсю гразь, а затым памыйце з мылам.

**Для таго, каб шурпатая скура разгладзілася і стала пяшчотнай, змазвайце рукі крэмам кожны дзень.** Лепш за ўсё гэта рабіць на ноч. Пасля такіх рэгулярных працэдур вам будзе не сорамна ўзяць жанчыну за руку. Ды і ўвогуле, чыстыя, дагледжаныя рукі з'яўляюцца прыметай **ураўнаважанасці і акуратнасці.**



Калі вы курыце і на вашых пальцах застаецца непрыемны жоўты налёт, то зняць яго дапаможа **звычайны лімон.**

***Даглядаць рукі не так ужо і цяжка. Гэта не патрабуе пэўных навыкаў і шмат часу, затое саромецца вам сваіх рук не прыйдзецца. Нават работа ў аўтасервісе не апраўдвае брудныя рукі.***

